# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (750) БЕЛАСТОК, 12 ЛІПЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


*Сустрэчы з «Нівай»*

## ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ СПРАВЫ КАРЫЦІСКАЎ

Надвячоркам у клубе пачалі збірацца людзі. Ніна Троц, кіраўнічка клуба, стаяла за прылаўкам і прадавала людзям то папяросы, то аранжаду, то сшыткі. У тэлевізары ішоў фільм «Чатыры панцэрных і пес». Было чалавек дваццаць. Гэта не мала, таму што ў Карыцісках жыве толькі 45 сем'яў, а ўсіх людзей у вёсцы налічваецца 276. Калі скончылася тэлеперадача «Чатырох панцэрных», неяк адразу наладзілася ў мяне гутарка з прысутнымі. Хлопцы і дзяўчаты сталі гаварыць аб сваіх аднавяскоўцах, якія ў вялікіх гарадах Польшчы займаюць адказныя пасады. Налічылі іх больш 20-ці асоб. А вось некаторыя з іх: Аляксей Куптэль працуе інжынерам у Жэрані на Варшаўскай фабрыцы самаходаў, Уладзімір Томчук сакратаром партыі ў Аўгустове, Пётр Томчук афіцэрам у войску, а Надзя Данілюк бухгалтарам у Беластоку.

Чалавек дваццаць яшчэ вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых школах: Люба Кучынская ў Бельску ў медыцынскім ліцэі, Уладзімір Троц у будаўляным тэхнікуме ў Беластоку, Уладзімір Аліферук і Валя Купрыяновіч у ліцэі ў Гайнаўцы, Янка Саўчук у дрэваапрацоўчым тэхнікуме ў Гайнаўцы, а Надзя Саўчук у вышэйшай школе ў Гданьску на матэматыцы.

Людзі з Карыціскаў ганарацца тым, што з іх вёскі ўжо шмат знатных людзей, што яны пры народнай уладзе атрымалі адукацыю, а многія яшчэ вучацца ў сярэдніх і вышэйшых школах.

Ва ўсе класы пачатковай школы ў суседнюю вёску Стары Корнін ходзіць 35 чалавек. І многія з іх, напэўна, пойдуць далей вучыцца.

У свабоднай беспасрэднай гутарцы зганулі дзяўчаты пра Янку Масальскага і Толю Томчука. Яны не так даўно пайшлі служыць у армію. А праважанне у салдаты ў Карыцісках мае сваю традыцыю. Будучы вайсковец разам са сваімі бацькамі рыхтуе ў сваёй хаце развітальны баль. Кругом чатырох сталоў засела на Вялікдзень 20 хлопцаў і 15 дзяўчат. Балявалі ўсю ноч, а назаўтра праважалі Толіка аж да Гайнаўкі.

І яшчэ адзін цікавы звычай пануе ў Карыцісках — гэта прыём да кампаніі дарослых. Адбываецца ён на Каляды і Новы год старога стылю. Калі хлапец або дзяўчына канчае 17 год (дзяўчына нават пасля 16), калі хоча прыступіць да групы дарослых і бацькі нічога не маюць супраць, адбываецца свайго роду ўрачыстасць. Старэйшая моладзь ідзе з гармонікам у тую хату (заўсёды да дзяўчыны). Хлопцы з сабою маюць гарэлку, дзяўчаты закуску, ды бацькі дзяўчыны пры пустым стале не садзяць моладзь. Адбываецца пачастунак, складаецца пажаданне тым, якія прымаюцца ў групу дарослай вясковай моладзі. Тут і песня, і музыка, і танцы.

У клуб па адным, па двух, па трох прыбываюць людзі. Старэйшыя і маладшыя. Аб жыцці-быцці сваёй вёскі, аб справах малых і вялікіх для сялян гавораць солтыс Іван Аліферук, начальнік пажарнай каманды і яго намеснік Рыгор Троц і Андрэй Аляксеюк.

Два гады таму назад была праведзена тут камасацыя. Гаспадары маюць зараз шырокія палеткі, і гэта значна аб-

Працяг на стар. 4



*Пад Плёскамі.* *Фота Цаф. — Сянько*

У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ




Хто з вас не ведае Варапаева? Калі вы хаця разок былі ў Беластоку, не маглі яго не заўважыць. Здаравезны, малады яшчэ мужчына з чырвоным, поўнакроўным тварам. Валасы ў мужчыны буйныя і доўгія — ззаду свабодна пакрываюць плечы, спераду — прычэсаныя ў кок, зашпіленыя брошкай з бліскучымі каменнямі — тырчаць далёка перад носам.

Агромністы мужчына сядае на сваю павозку. Павозка невялічкая — амаль дзіцячая гульня. Цягне конік пацешны, пяшчотна маленькі, амаль такі, якія дзецям купляюць у краме на імяніны — (адкуль ён узяў такога коніка?). Маленькі конік, маленькая павозка і грамадны мужчына з буйнымі валасамі і кокам з брылянтамі. Штодзённа каля дзевятай гадзіны раніцы — лета ці зіма, вясна ці восень — мужчына едзе на сваёй павозцы цэнтральнымі вуліцамі горада з месца свайго пражывання на Баярах на новы рынак пры вуліцы Бэма.

А дзевятай гадзіне раніцы горад заняты сваімі справамі. Бягуць у бюро моцна спозненыя ўраднікі, бабы цягнуцца за пакупкамі на рынак, ва ўстановы ідуць наведвальнікі, раздумоўваючы, як уладзіць толкам свае справы. Уезд Варапаева ў цэнтр горада для ўсіх з'яўляецца кароткім святам. Людзі затрымоўваюцца на вуліцы, адварочваюцца, абводзяць Варапаева зрокам, забываючы пра свае справы і раздумоўваючы: чаго ён хоча? Дурань? (мусіць, не, бо даволі спраўна гандлюе фруктамі на рынку), хітрэц? (але якую ён мае з гэтага карысць?), можа баптыст які або масон? — халера яго ведае. Некаторыя, быццам нешта зразумеўшы, плююць злосна ў зямлю.

А Варапаеў едзе далей — з годнасцю і павагай, быццам кароль у каралеўскай павозцы.

Наведала ў свой час Беласток нейкая жанчына з Францыі — здаецца нават з Парыжа.

Ад'язджаючы, напісала ліст у беластоцкі дзённік — што ёй Беласток спадабаўся — чаго ж, культурны і адбудаваны. Што людзі ў горадзе не дурныя, толькі здзіўляе яе вось адно: ездзіць па цэнтры горада такое «чудзілішча» XX стагоддзя — ні чалавек, ні малпа — і жыхары горада спакойна на гэта глядзяць, нават не пратэстуюць (дурная баба — быццам бы не было іншых аказій да пратэсту!).

Ліст быў надрукаваны. У адказ прыслаў у рэдакцыю ліст Варапаеў. Выступіў у абарону. Не сябе, а свайго горада — Беластока. Пісаў прыблізна так: Пані, якая прыехала да нас з Парыжа, думала, што апынулася ў глыбокай правінцыі Еўропы. А Беласток тымчасам не толькі горад культурны і сучасны, але і талеранцыйны, цярплі-

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

■ 7-га чэрвеня Сакрат Яновіч меў аўтарскую сустрэчу на Сакольшчыне ў Слоі.

■ 18-га чэрвеня ў Дуброве арганізаваўся гурток БГКТ. Старшынёю гуртка выбраны Мікалай Санік, сакратаром — Аляксандр Кузьмюк, а скарбнікам — Пётр Германюк. У сходзе прынялі ўдзел арганізацыйны кіраўнік ГП Ліда Антанюк і інструктар ГП Анатоль Севасцьянюк.

■ Пленум сямяціцкага аддзела БГКТ 21-га чэрвеня зрабіў ацэнку выканання праграмы праўлення, апрацаванай з нагоды 25-ай гадавіны Народнай Польшчы і 100-ай гадавіны з дня нараджэння Леніна. Пленум зацвердзіў праграму адзначэння 15-ай гадавіны сямяціцкага аддзела.

■ Прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку 20-га чэрвеня зацвердзіў план працы на другое паўгоддзе.

■ Доктар філалагічных навук Аляксандр Баршчэўскі 21-га чэрвеня ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку расказаў аб тым, што такое Купалле. Пасля даклада пачалася забава для моладзі.

■ Камісія культуры ГП 22-га чэрвеня на сваім чарговым пасяджэнні абмеркавала справы ўдзелу БГКТ у конкурсе на савецкую песню і дала ацэнку праведзенаму конкурсу на беларускую песню ў аддзелах і ў ГП. Камісія абавязалася да 15 жніўня падрыхтаваць план культурных мерапрыемстваў на 1970/71 г. г.

■ 24-га чэрвеня пасяджэнне прэзідыума ГП складалася з наступных пунктаў: 1) інфармацыя аб выкананні пастаноў VI з'езда БГКТ, 2) зацвярджэнне плана працы ГП і прэзідыума на II-е паўгоддзе 1970 года, 3) прызнанне ўзнагарод для штатных працаўнікоў і актывістаў БГКТ з нагоды набліжаючагася свята Адраджэння Польшчы.

■ 28-га чэрвеня гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з грамадскай радай нарадовай і грамадскім камітэтам ПАРП у Палічнай арганізавалі фэстын, прысвечаны 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна і 25-ай гадавіне перамогі над нямецкім фашызмам.

■ Эстрада «Лявоніха» 28-га чэрвеня ў памяшканні ГП выступіла з канцэртам для жыхароў горада Беластока.

■ Моладзь Дзернякова ў Беластоцкім павеце падрыхтавала п'есу Сакрата Яновіча «Люцынка-інжынерыха», а школьнікі пад кіраўніцтвам Зіны Тамашэвіч выступаюць з дзвюма пастаноўкамі «Пасля ўрокаў» К. Мальцінскага і «Як я быў доктарам» М. Алтухова.

■ Гурток БГКТ супольна з гуртком ЗМВ у Скрабляках 27-га чэрвеня арганізавалі забаву, а 28-га чэрвеня ўсе пабылі на польскім фільме пад загалоўкам «Між вераснем а маем». Пасля сакратар беластоцкага аддзела БГКТ Янка Цялушэцкі расказаў прысутным аб працы БГКТ, затым адбыўся конкурс на песню і на найлепшую танцуючую пару. Асабліва многа хлопцаў і дзяўчат уключылася да спявання. Найпрыгажэй спявала Зіна Дудэнка. Найлепшым былі ўручаны ўзнагароды — выдавецтвы ГП БГКТ.

■ 21-га чэрвеня моладзь, аб'яднаная ў гуртку БГКТ і ЗМВ у Паўлах (Бельскі павет), арганізавала вечар, прысвечаны 25-ай гадавіне перамогі над нямецкім фашызмам. Выступіла яна ў сваёй вёсцы з п'есаю «Аповесць аб загінуўшым салдаце», а затым адбылася вечарына з танцамі.

(мх)

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### ЗАЯВА ПРЭЗІДЭНТА ФРАНЦЫІ

— Адзіны шлях да палітычнага вырашэння араба-ізраільскага канфлікту — поўнасцю ажыццявіць рэзалюцыю Савета Бяспекі ад 22 лістапада 1967 года, — заявіў прэзідэнт Францыі Жорж Пампіду, прымаючы ў Елісейскім палацы вярыцельныя граматы новага пасла ААР Мухамеда Ісмата Абдэль Магіда.

Выказаўшы заклапочанасць у сувязі з небяспекай далейшага адцягвання ўрэгулявання сітуацыі на Блізкім Усходзе, Ж. Пампіду падкрэсліў, што Францыя не пашкадуе намаганняў для пошукаў такога вырашэння блізкаўсходняга крызісу, якое забяспечыць трывалы мір, заснаваны на справядлівасці.

### ЗАКЛІК АНК

З заклікам да англійскіх працоўных усімі сродкамі перашкаджаць адпраўцы ў Паўднёвую Афрыку зброі звярнуўся Афрыканскі нацыянальны кангрэс (АНК) — арганізацыя, якая аб'ядноўвае прагрэсіўныя і антырасісцкія сілы Паўднёвай Афрыкі.

У звароце падкрэсліваецца, што паўднёваафрыканскаму рэжыму зброя патрэбна для «захавання свайго панавання над незаконна захопленай Намбіяй (Паўднёва-Заходняй Афрыкай), для падаўлення барацьбы афрыканскага насельніцтва краіны за свае правы, свабоду і чалавечую годнасць».

### ВЫБУХ

На выпрабавальным палігоне ў штаце Невада Злучаныя Штаты зрабілі ў канцы чэрвеня яшчэ адно падземнае ядзернае выпрабаванне, паведаміла камісія па атамнай энергіі. Гэта 24-е выпрабаванне, праведзенае ў гэтым годзе.

### МАНАПОЛІ ФРГ

Манаполі Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ўсё глыбей пранікаюць у эканоміку краін Лацінскай Амерыкі. Паводле апублікаваных тут даных, заходнегерманскія капіталаўкладанні ў Лацінскай Амерыцы дасягнулі 2,6 мільярда марак (60 працэнтаў усіх пасляваенных капіталаўкладанняў ФРГ у слабаразвітых краінах).

### ЗАЯВА НІКСАНА

У заяве аб Камбоджы Ніксан аб'явіў, што амерыканскія войскі выведзены з Камбоджы пасля выканання імі іх «місіі». Падводзячы вынікі аперацыі, у якой, паводле слоў прэзідэнта, удзельнічала 32 тысячы амерыканскіх і 48 тысяч сайгонскіх салдат, ён назваў яе «паспяховай».

Са зместу заявы вынікае, што Злучаныя Штаты зусім не маюць намеру адмаўляцца ад узброенага ўмяшання ў Камбоджы. Ён паведаміў, што амерыканская авіяцыя па-ранейшаму будзе падвяргаць бамбардзіроўцы камбаджанскую тэрыторыю, а падраздзяленні паўднёва-в'етнамскай арміі будуць прадаўжаць свае ваенныя аперацыі ў Камбоджы.

### XI З'ЕЗД КПЯ

У такійскім прыгарадзе Тацікава ад 1 па 7 ліпеня адбываўся XI з'езд Камуністычнай партыі Японіі. У парадку дня з'езда — справаздачны даклад ЦК, унясенне паправак у статут, выбары цэнтральных органаў партыі. (ак)



## БССР

### «ЗРОБЛЕНА Ў ПОЛЬШЧЫ»

З нагоды польскай прамысловай выстаўкі ў Мінску беларускі друк піша пра эканамічныя сувязі паміж Польшчай і Беларуссю. Добра вядомы ў Польшчы вырабы з маркай беларускіх прадпрыемстваў. Выдатна працуюць дужыя «МАЗ-ы» і «БелАЗ-ы», станкі. Польшча атрымоўвае з Беларусі шмат мінеральных угнаенняў. Даўняя дружба звязвае рабочых Мінскага трактарнага завода і варшаўскага «Урсуса».

У будынку мінскага цырку выступілі з вялікім канцэртам артысты польскай эстрады — м. ін. Ліяна Пара, Леакадыя Земка, Лідзія Карсакоўна, Кшыштаф Цвінар, Вянчыслаў Глінскі.

### ЗЛЁТ ВЫНАХОДНІКАЎ

У Палацы культуры беларускіх прафсаюзаў адбыўся другі рэспубліканскі злёт вынаходнікаў, рацыяналізатараў і наватараў вытворчасці.

Ужо больш як сорак пяць тысяч перадавікоў вытворчасці закончылі асабістыя пяцігадовыя планы. Рацыяналізатарскі рух на Беларусі ахоплівае каля 96 тысяч асоб. Эканамічны эфект ад рэалізацыі рацыяналізатарскіх прапаноў склаў каля 68 мільёнаў рублёў.

### ПТАСІНЬСКІ

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Польшчы ў Саюзе ССР Ян Птасіньскі зрабіў паездку ў Навагрудак, дзе азнаёміўся з экспанатамі Дома - музея Адама Міцкевіча, пабываў на легендарнай Свіцязі. Суправаджаў пасла міністр замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч.

### ТЭЛЕГРАМА

Пасля візіту ў Беларусі генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый У Тан прыслаў Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР Ц. Кісялёву тэлеграму, у якой дзякуе за гасціннасць і выказвае задавальненне карыснай дыскусіяй з беларускім урадам.

### У ГЛЫБОЦКАЙ

У рэдакцыі глыбоцкай раённай газеты «Шлях перамогі» адбылася сустрэча з журналістамі «Газеты зялёнагурскай», якія наведалі Беларусь.

### СТОТЫСЯЧНАЯ

Стотысячная газавая пліта ўстаноўлена ў Віцебскай вобласці. Уладальніцай юбілейнай пліты аказалася цялятніца саўгаса «Стайкаўскі» Надзея Кляшчова.

### ПОМНІК

«Помнік трэба аднавіць» — пад такім лозунгам нарадзілася ініцыятыва аднаўлення помніка Рамуальду Траўгуту ў Свіслачы. Дыктатар студзеньскага паўстання быў верным паплечнікам і сябрам легендарнага Кастуся Каліноўскага.

### СВІЦЯЗЬ

Савет Міністраў Беларускай ССР пастановай ад 18 чэрвеня г. г. аб'явіў дзяржаўным запаведнікам рэспубліканскага значэння возера Свіцязь і навакольны лясны масіў у 16—23 кварталах Свіцязянскага лясніцтва.

Возера ўжо даўно стала месцам паломніцтва турыстаў. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ГУРТКІ

Адбыўся IV з'езд Саюза сельскагаспадарчых гурткоў. Падчас з'езда з прамоваю выступіў І сакратар Польскай аб'яднанай рабочай партыі Уладзіслаў Гамулка. Ён падзякаваў сельскагаспадарчым гурткам за іх дзейнасць і намаганні для развіцця сельгаспадаркі.

У далейшай частцы свайго выступлення прамоўца сцвердзіў, што палітыка інтэнсіўных метадаў гаспадарання поўнасцю датычыць і нашай сельскай гаспадаркі, якая павінна хутка інтэнсіфікаваць сваю прадукцыю. Далей тав. Гамулка ахарактарызаваў датыхчасовы прагрэс нашай сельскай гаспадаркі. Плёны 4-ох збожжавых культур дасягнулі ў нас 20,4 цэнтнера з гектара, праяўляючы пастаянны ўзрост. Наступіў узрост колькасці жывёлы, хаця ў меншай ступені, чымсьці ўзрост збожжавых культур. У гэтым годзе аднак з прычыны надта цяжкай зімы будзем мець ніжэйшыя плёны, чымсьці ў папярэдніх гадах. У выніку неспрыяльных атмасферных умоў знішчылася каля 20 працэнтаў пасеваў жыта. У выніку позняй вясны завораныя пасевы жыта не маглі быць поўнасцю абсеяны ярыною.

Гаворачы аб перспектывах сельскай гаспадаркі прамоўца заявіў, што пачынаючы ад гэтага года ўсе гаспадаркі, якія закантрактуюць збожжавыя культуры на абшары вышэй 20 працэнтаў ворыва, атрымаюць ільготы ў падатках вышынёю ў 50 злотых за кожны цэнтнер закантрактаванага збожжа. Звярнуў ён таксама ўвагу на неабходнасць лепшага загаспадарання паш і сенажацяў. Кожны гектар добра загаспадараных сенажацяў звальняе не менш як адзін гектар ворыва для прадукцыі збожжа, прамысловых раслін і іншых палявых культур. Павелічэнне колькасці пашы з'яўляецца асноўнай умовай далейшага развіцця жывёлагадоўлі. Харчовыя патрэбы ўсяго грамадства патрабуюць ад нас, каб жывёлагадоўля ўзрастала ў хутчэйшым тэмпе, чымсьці ў папярэдніх гадах. У гэтых умовах ўсе пашавыя рэзервы і гаспадарчыя памяшканні павінны быць выкарыстаны максімальна. У сувязі з тым, што сітуацыя ў жывёлагадоўлі вельмі няроўная ў паасобных ваяводствах, паветах і грамадах, кожная рада нарадовая абавязана будзе прааналізаваць магчымасці павышэння колькасці жывёлы. Неабходным будзе таксама больш дакладнае выконванне пастановы, абмяжоўваючай зарэз цялят, а таксама больш аператыўная скупка дзяржавай парасят, з мэтай утрымання на адпаведным узроўні іх цаны і супрацьдзеяння памяншэння колькасці свінаматак.

Гаворачы аб перспектывах механізацыі, тав. Ул. Гамулка сцвердзіў, што ў будучыні пашырацца магчымасці закупу паасобнымі гаспадарамі трактараў і іншых сельскагаспадарчых машын. Датычыць гэта ў першую чаргу гаспадароў, якія маюць большыя гаспадаркі і бяруць да загаспадарання дадатковыя грунты з дзяржаўнага фонду зямлі. Павінен пры гэтым аднак быць захаваны прынцып, што гаспадары гэтыя выкарыстоўваць будуць гэтыя трактары толькі на сваіх гаспадарках і не пачнуць імі зарабляць у іншых гаспадароў. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### VI СЕСІЯ ВРН

30 чэрвеня адбылася VI сесія Ваяводскай рады нарадовай, прысвечаная забеспячэнню вадой сельскай гаспадаркі і вёсак ў наступнай пяцігодцы. У працы сесіі прынялі ўдзел віцэ-міністр сельскай гаспадаркі М. Салецкі і прадстаўнікі ваяводскіх партыйна-адміністрацыйных улад. Намеснік старшыні ВРН Ул. Міхалюк правёў аналіз існуючага становішча адносна забеспячэння вадой сельскай гаспадаркі і прадставіў праект праграмы забеспячэння вёсак вадой у наступнай пяцігодцы.

У сучасны момант галоўнай крыніцай вады на вёсцы з'яўляюцца капаныя студні. Яны забяспечваюць вадой 94,4% гаспадарак. Вельмі часта гэтыя студні выкапаны ў неадпаведным месцы, стаяць без прыкрыўкі, рэдка чысцяцца. І ў выніку ўсяго гэтага толькі 30% існуючых студняў маюць добрую пітную ваду.

Прыняты план забеспячэння вёсак вадой на 1967—70 гады, на жаль, выкананы поўнасцю не будзе па цэламу шэрагу прычын. Галоўныя з іх — слабая прадукцыйная магчымасць выканаўчых прадпрыемстваў, адсутнасць каардынацыі і раздрабненне аб'ектаў.

На наступную пяцігодку праект плана прадугледжвае будаўніцтва рознага тыпу студняў коштам 96 млн. злотых. Будзе пабудавана 31 водаправодная сетка. Асаблівая ўвага будзе звернута на ліквідацыю недахопаў мінулай пяцігодкі. Але галоўнай крыніцай пітной вады на вёсцы застануцца звычайныя студні. Будавацца яны будуць за грошы сялян. Таму сяляне атрымаюць дадатковыя прыдзелы будаўнічых матэрыялаў. Выканаўцамі ўсіх важнейшых работ па забеспячэнню вёсак вадой будуць прадпрыемства «Эльвод», Ваяводскае прадпрыемства механізацыі сельскай гаспадаркі і ПРІМ. Гэтыя прадпрыемствы пачнуць працу сканцэнтраваным спосабам і ў тых мясцовасцях, дзе наймацней адчуваецца недахоп вады.

У дыскусіі выступіў віцэ-міністр сельскай гаспадаркі М. Салецкі. Ён падкрэсліў, што вада ў будучыні будзе мець рашаючае значэнне ў развіцці сельскай гаспадаркі на Беласточчыне. І ўжо сёння трэба вельмі прадумана, з думкай аб будучыні забяспечваць патрэбы нашай гаспадаркі і вёсак чыстай вадой.

### ПРАДСТАЎНІКІ ЗМС У А. ЛАШЭВІЧА

І сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч прыняў кіраўнікоў ваяводскага праўлення ЗМС. На спатканні былі абмеркаваны арганізацыйна-праграмныя тэзісы сёлетняй летняй акцыі і найважнейшыя ініцыятывы Ваяводскага праўлення ЗМС на бліжэйшы час. Тав. Лашэвіч прыняў запрашэнне сустрэцца з моладдзю ЗМС, прабываючай у лагеры ў Борках ля Аўгустова ў другой палове ліпеня.

### СВЯТА СПУЛДЗЕЛЬЦАЎ

Урачыста адзначылі ў мінулым тыдні сваё свята спулдзельцы. У тэатры імя Вянгеркі адбыўся ўрачысты вечар прадстаўнікоў спулдзельчасці з усяе Беласточчыны. Многія спулдзельцы атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. (яч)




**Niedziela, 12.VII.70**

8.35 Program dnia; 8.40 Telewizyjny Kurs Rolniczy „Lato 70"; 9.15 Przypominamy, radzimy; 9.30 Międzynarodowy cykl programów dziecięcych (Mińsk); 10.00 „Zaczarowany kożuszek" film dla dzieci (odc. III); 10.25 „Jesteśmy na wczasach" cz. I — „W starym kinie"; 11.25 „Konserwatorzy z Kremla" („W świecie sztuki") Moskwa; 12.00 „Dropie" — film prod. rum.; 12.15 Motocyklowe mistrzostwa świata (Sachsenring — NRD); 13.45 Dziennik; 14.00 „Ziemia, ludzie, paragrafy" — Spotkanie w Klikowie; 14.30 Teatrzyk dla Przedszkolaków — „Podróż z przygodami"; 15.00 Malarz ostatniego króla; 15.25 „Murzyński śpiewak" film („Bonanza"); 16.15 Studio 63 „O Wyspiańskim..."; 17.15 „Wielka gra"; 18.15 „Spotkanie z muzyką"; 19.00 PKF; 19.10 „Portret miasta" — film Tele-Aru; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.15 Festiwal Piosenki Żołnierskiej, Kołobrzeg 1970 — Koncert Laureatów; W przerwie ok. 21.50 Magazyn sportowy; 23.15 Program na jutro.

**Poniedziałek, 13.VII.70**

16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 17.25 Echo stadionu; 17.45 „Polarna wiosna" — felieton filmowy; 18.00 Film rozrywkowy prod. radz. „Sewastopolskie melodie"; 18.15 „Wodowanie" — reportaż; 18.45 Eureka; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 VII Festiwal Teatrów Dramatycznych — Lew Tołstoj „Zmartwychwstanie"; Ok. 21.35 „Fragment życiorysu" — polski film telewizyjny; 21.55 „Odwiedziny" — rep. film.; 22.25 Dziennik; 22.40 Program na jutro.

**Wtorek, 14.VII.70**

10.00 „Wybuch po północy" — film fab. radziecki; 11.40 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.45 Poligon; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Wybuch po północy" — film fab. radz.; 21.45 „Kraj zwany Belgią" — film dokumentalny prod. belgijskiej; 22.15 Dziennik; 22.30 Program na jutro.

**Środa, 15.VII.70**

10.00 „W matni" („Powrót dr Kniprode") polski film TV; 11.00 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 18.10 Telewizyjny Kurier Warszawski; 18.25 Magazyn ITP; 18.40 Wszechnica TV z cyklu „Sztuka liczenia" — „Co to jest intensywność"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „W matni" („Powrót dr Kniprode") polski film TV; 21.05 Światowid; 21.35 PKF; 21.45 „Pała ze sprawowania" — film franc.; 22.30 Dziennik; 22.45 Program na jutro.

**Czwartek, 16.VII.70**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół podstawowych; 9.50 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 „List z Tarasson" film dokumentalny franc.; 17.25 Telewizyjny Kurier Białostocki; 17.40 Nie tylko dla pań; 18.00 Przegląd muzyczny; 18.30 Milionerzy z Kietrza; 19.00 Przypominamy, radzimy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr Sensacji — Aldous Huxley „Uśmiech Giocondy"; Około 21.25 Lektury współczesne; 21.40 Refleksje; 22.10 Dziennik; 22.25 Program na jutro.

**Piątek, 17.VII.70**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół średnich; 10.00 „Poemat dwóch serc" — film fab. radz.; 11.35 Przerwa; 16.45 Program dnia; 16.50 Dziennik; 17.00 Teleferie; 18.30 Telewizyjny Kurier Mazowiecki; 18.45 Wszechnica TV; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Różaniec z granatów" — polski film TV; 20.30 Kraj — magazyn społ.-polit.; 21.15 VII Telewizyjny Festiwal Teatrów Dramatycznych — Molier — „Don Juan"; Ok. 22.45 Dziennik; 23.00 Program na jutro.

**Sobota, 18.VII.70**

10.00 „Anioł błogosławionej śmierci" film fab. prod. czechosłowackiej; 11.30 Przerwa; 16.25 Program dnia; 16.30 Program tygodnia; 16.50 Dziennik; 17.00 „Pamir — dach świata" — film radz.; 17.30 Oferty; 17.40 Spotkania z przyrodą; 18.05 „Folklor Podhala" („Profile kultury"); 18.35 Tele-Echo; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 Teatr Rozrywki — Kazimierz Gliński „Baśka"; 21.40 Dziennik; 22.00 „Wyprawa siedmiu złodziei" — film fabularny USA; 23.40 „Skandal w Watusi" — film z Las Vegas; 0.10 Program na 19.VII.




**Piątek, 10 lipca**

8.05 Nowiny; 8.15 Dla dzieci; 8.45 Spektakl lalkowy; 9.15 Film fab.; 10.45 Nowiny; 14.00 Program dnia; 15.05 Nowiny; 15.15 Zdrowie; 15.45 Panorama nowin; 16.05 Program młodzieżowy; 17.00 Film animowany; 18.00 Czas; 18.25 Film TV; 18.45 Zaproszenie do podróży; 19.30 Film fab.; 21.00 Nasza poczta; 21.20 Koncert; 21.50 Nowiny.

**Sobota, 11 lipca**

8.00 Koncert; 8.30 Zdrowie; 9.00 Obiektyw; 9.30 Dla dzieci; 10.00 Przegląd międzynarodowy; 10.15 Szkatułka muzyczna; 10.30 Film fab.; 12.00 Komunista i jego sprawy; 12.30 Białe i czarne; 13.00 Reportaż o Pińsku; 13.30 Koncert; 14.05 Kronika półwiecza. Rok 1942; 15.00 Koszykówka. „Żalgiris" (Wilnius) — „Dynamo" (Moskwa); 16.40 „Na Dalekim Wschodzie". Film dokumentalny; 17.10 „Stawka większa niż życie". I seria; 18.15 Czas; 18.45 Koncert; 19.25 Film; 20.50 „Filipinki" w Kijowie. Koncert; 21.50 Nowiny.

**Niedziela, 12 lipca**

8.00 Kiosk muzyczny; 8.30 Talon; 9.00 Dla wsi; 9.30 Dla uczniów; 10.00 Film animowany dla dzieci; 10.10 Film fab. 11.25 W świecie sztuki; 11.55 Dla uczniów; 12.55 Nowiny; 13.00 Dla żołnierzy; 13.30 Spotkanie z Muzeum Rosyjskim; 14.00 Spektakl operetki moskiewskiej; 16.05 Klub filmowy; 17.00 Koncert; 17.45 „Stawka większa niż życie". II seria; 18.45 Siedem dni; 19.15 Koncert; 20.30 Transmisja sportowa; 21.15 Nowiny.

## АНСАМБЛЬ ПЕСНІ І ТАНЦА

# „ЛІДЧАНКА“

Калі прыязджае на Беласточчыну мастацкі калектыў з Гродзеншчыны, заўсёды людзі з вялікім зацікаўленнем ідуць у тэатр імя Аляксандра Вянгеркі. Нашае таварыства атрымала больш 100 білетаў і іх не хапіла для членаў БГКТ у горадзе Беластоку. І вось 22 чэрвеня тэатр перапоўнены. Многія знаёмяцца з дасканала зробленай праграмай канцэрта. Адзвінелі званкі, і ўсе сядзяць на сваіх месцах. Адкрываецца занавес, і з прывітальным, эмацыянальным словам выступае знаёмая нашым чытачам з ранейшай публікацыі ў «Ніве» Надзежда Папова — сакратар гарадскога камітэта КПБ у Лідзе.

Затым пачынаецца канцэрт. На сцэне харавы сямідзесяціасабовы калектыў у прыгожых касцюмах пад мастацкім кіраўніцтвам Васіля Аламаха выконвае песні: «Прывітальную», «Беларусь, мая радзіма», «У бары дрымучым», «Кукушку» і «Партызанскі край». Гэтыя першыя песні запаланілі сэрцы прысутных, а зноў лаўрэат Усесаюзнага фестываля мастацкай самадзейнасці Зіновіі Бянько сваім цудоўным голасам ачароўваў усіх да канца.

Далейшыя пункты праграмы, як і першыя, узнагароджваліся бурнымі апладысментамі. І вакальны квінтэт, і мужчынскую вакальную групу, і жаночую групу ансамбля, і мужчынскае трыё, якое выконвала, між іншым, беларускую народную песню «Баба Еўка, дзед Тамаш» не хацелі прысутныя выпусціць са сцэны.

30-асабовы танцавальны калектыў, які паказваўся ўсё ў іншых прыгожых і каляровых уборах, захапіў беласточчан рускім танцам «Карабейнікі», украінскім «Паўзунком» і беларускай «Лявоніхай».

А калі ўжо гаварыць аб кампазіцыях, харэаграфічнай — «Яблынька», музычна - харэаграфічнай «Наш горад» і заключнай з беларускім народным танцам «Лявоніха», дык тут паказана вельмі высокае майстэрства і талент не толькі танцавальнай групы і харавога калектыву, але і мастацкага кіраўніка і дырыжора В. Аламаха, балетмайстра А. Конана, хормайстра К. Казячы, кіраўніка аркестра В. Янкава, кансультанта канцэрта І. Хвораста і канцэртмайстраў канцэрта П. Шчаблыкіна і Г. Мядзведзева.

Адным словам, уражанні ад канцэрта ансамбля песні і танца з Ліды незабыўныя і прычыняюцца да паглыблення дружбы паміж польскім і беларускім народамі. (мх)

*Фото — С. Грынявіцкі*



*Выступае танцавальная група ансамбля.*



*Спяваюць браты Іван і Мікалай Урбановічы і Вацлаў Лебядзінскі.*



*Лідчанкі танцуюць грацыёзна.*



*Салістка ансамбля Е. Харук.*



*Развітанне з беластаччанамі.*

Наш Каляндар

## •АЛЕСЬ АСТАПЕНКА•

14 ліпеня спаўняецца 50 год з дня нараджэння беларускага паэта Алеся Астапенкі. Нарадзіўся паэт у вёсцы Сырская Буда на Гомельшчыне ў сялянскай сям'і. Вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута імя Горкага. Удзельнічаў у баях на Заходнім і Бранскім франтах, летам 1943 г. пад Арлом быў цяжка паранены. Аўтар зборнікаў «Выпрабаванне», «Дзень маёй Радзімы», «Сэрца спявае».

Верш, які прапануем увазе чытачоў, паэт напісаў у 1945 годзе.

*

*Калі ён стукае драўлянаю нагой,*
*Ідзе маруднай, цяжкаю хадой, —*
*Дарогу дай яму і пакланіся нізка,*
*Нібы яго даўно ты знаеш блізка.*

*Нядбалым у сям'і сваёй не быў,*
*Зямлю, народ і песню ён любіў,*
*Прыгожым, дужым маці узрасціла,*
*Каб ён падмогай быў пад старасць, сын-асілак.*

*Прыйшла у край няпрошана вайна,*
*У пекла бою кінула яна,*
*Стаяў насмерць ён пад Масквой, Растовам,*
*Абкуран твар яго агнём баёў суровых.*

*Ён засланяў грудзямі Волгаград,*
*Ад Волгі немца гнаў аж да Карпат,*
*І мы на волі водар п'ём вясновы,*
*Бо ён прайшоў тут па палях, дубровах.*

*Каб не адчуў ён болю сваіх ран,*
*Раскінься, плёсаў сінь, азёраў акіян.*
*А пройдзе ён, руплівы, полем чыстым,*
*Зямля, пад ногі ляж травою шаўкавістай.*

*Шумі, шумі зялёны, дзіўны гай,*
*Вясёлай песняй сына сустракай,*
*Гаі яму ўспаміны дзён балючых,*
*Сатканых са свінца і перашкод калючых.*

*Загляне на гулянку ў добры час, —*
*Не абнясіце міма хоць бы раз,*
*Няхай ён з кожнай чаркі пакаштуе,*
*На покут сядзе, як у нас бытуе.*

*АЛЕСЬ АСТАПЕНКА*

## ПОЛЬСКАЯ НАВУКА ПРА БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

У пачатку гэтага года выйшаў з друку першы том «Гісторыі польскай фальклярыстыкі» [1]. Кніга ўяўляе сабой грунтоўнае даследаванне пытанняў збірання і апрацоўкі польскімі фальклярыстамі народных песень, казак, легенд, прымавак і загадак ат 1800 да 1863 года.

Паколькі польскія вучоныя не абмяжоўваліся вывучэннем тэрыторыі этнічна польскай, але таксама цікавіліся жыццём усіх народаў, якія да падзелаў Польшчы знаходзіліся ў яе граніцах, у «Гісторыі» знойдзем факты важныя і для беларускай, літоўскай і украінскай фальклярыстыкі.

Гісторыі вывучэння беларускай і літоўскай народнай творчасці прысвечан артыкул Станіслава Свіркі «Літва і Беларусь». У ім можна знайсці характарыстыкі, прац, якія змяшчаліся ў польскім перыядычным друку, а закраналі пытанне беларускіх абрадаў і песень, падрабязнае апісанне дзейнасці Зарыяна Далэнгі-Хадакоўскага і грунтоўны аналіз сувязі індывідуальнай творчасці членаў таварыства Філаматаў (Т. Зана, Я. Чачота, О. Пяташкевіча, А. Міцкевіча) з беларускімі народнымі песнямі і звычаямі. У канцы артыкула аўтар піша, што да канца другога дзесяцігоддзя XIX века фальклярыстыка літоўска-беларускіх зямель развівалася ў цеснай сувязі з агульнапольскай культурай, але больш павольна і скромна. У цэнтры зацікаўленасці фальклярыстыкі народную культуру паставіў толькі Хадакоўскі, а бурнае развіццё гэтай навукі забяспечыла віленская рамантычная школа, якая сваю творчасць базіравала на народных крыніцах.

Гісторыю вывучэння беларускай народнай творчасці прадстаўнікамі польскай культуры Свірка даводзіць да 1830 года. Наступнае трыццацігоддзе чакае яшчэ свайго даследчыка. Паасобныя звесткі пра гэты перыяд знойдзем у артыкулах Р. Гурскага «У кругу Крашэўскага і Атэнэум» і Ю. Крыжаноўскага «Пецербург — Кіеў», апублікаваных у гэтым жа томе. Гаворачы пра дзейнасць польскіх літаратурных кругоў Пецярбурга і Кіева, Крыжаноўскі характарызуе праграмы іх літаратурнай і выдавецкай дзейнасці. Між іншым, успамінае пра важнейшыя працы Яна Баршчэўскага («Шляхціч Завальня або Беларусь у фантастычных апавяданнях») і Яна Чачота („Piosenki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny").

Дзякуючы спамянутым артыкулам «Гісторыя польскай фальклярыстыкі» мае вялікае значэнне не толькі для вывучэння польскай народнай творчасці, але і для гісторыі фальклярыстыкі беларусаў.

1) Dzieje folklorystyki polskiej 1800—1863. Red. H. Kapełuś, J. Krzyżanowski. Ossolineum. Wrocław 1970.

*МАР'Я ЧУРАК*

САРДЭЧНА ВІНШУЕМ

## УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК У ПЕРШАЙ ДЗЕСЯТЦЫ

22 чэрвеня г. г. адбылася публічная абарона доктарскай працы нашага рэдакцыйнага калегі рэд. *У. Паўлючука*. Працу на тэму *«Светапогляд адзінкі ў перыяд распаду традыцыйнай тэрытарыяльнай грамадскасці»* напісаў ён пад навуковым кіраўніцтвам *прафесар др. Мар'і Асоўскай* на факультэце грамадскіх навук Варшаўскага ўніверсітэта.

Доктарская праца У. Паўлючука выклікала зацікаўленне і станоўчую ацэнку рэцэнзентаў, а таксама іншых навуковых супрацоўнікаў універсітэта. Дзяржаўная камісія, старшынёю якой быў дэкан факультэта грамадскіх навук прафесар др Клеменс Шаняўскі, аднагалосна і вельмі пазітыўна ацаніла працу Паўлючука і пастанавіла выступіць да Рады факультэта з просьбай аб наданні яму звання доктара сацыялагічных навук.

Адначасова інфармуем, што рэд. У. Паўлючук знаходзіцца ў першай дзесятцы журналістаў Польшчы, якія маюць навуковае званне — доктар.

Сардэчна віншуем, Валодзя!

(ак)




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

легчыла працу і пабольшыла магчымасці павышэння ўраджаю, таму што і з трактарам павярнуцца хапае прастору і рассяваць мінеральныя ўгнаенні няма аніякай праблемы. А ў мінулым былі палоскі, ды па паўтара метра шырыні і калі вецярок — паспрабуй рассей гэту «цудоўную соль». Ды кускоў зямлі ў некаторых гаспадароў налічвалася тады нават некалькі дзесяткаў. А цяпер усе зямельныя ўгоддзі ў трох, а не больш як у чатырох кавалках.

З апрацоўкай зямлі стала добра. Дрэнна яшчэ з вясковаю пашаю. Яна мокрая, трэба адвадніць, але гэтага не дапрасіцца ў павятовых улад. Кажуць яшчэ пачакаць, бо ёсць пільнейшыя справы. Каб гэта сталася хутка, дык 54 га пашы можна было б засеяць травой. Малака стала б значна больш. А калі пайшла гутарка пра малако, дык у Карыцісках справа не ўладжана. Няма яго дзе прадаваць. Многа яго марнуецца, многа свінням аддаецца. Бо хто мае пару літраў больш, чым зможа спажыць сям'я гаспадара, дык не носіць яго ў Стары Корнін. Таму толькі аплачваецца насіць у суседнія вёскі, у каго лішняга малака збіраецца каля 10 літраў. Наракаюць карыцішчане, што акруговая малачарня ў Гайнаўцы не хоча прыйсці з дапамогаю ў пабудове злеўні малака. — Мы ахвотна шмат грамадскай працы ўлажылі б, — заяўляюць сяляне. Напрыклад, пры будове вось гэтага клуба і рамізы ўсе яны дружна грамадскім чынам працавалі і маюць яны ў малой вёсцы такі вялікі клуб з вялікай сцэнаю, якога пакуль што няма ў суседніх вялікіх вёсках.

Пачатак на стар. 1

# ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ СПРАВЫ КАРЫЦІСКАЎ

Наступнай хвалюючай справай з'яўляецца продаж яек. Трэба вазіць іх прадаваць за 15 кіламетраў у Гайнаўку, бо крама ў Старым Корніне не прымае. А малако і яйкі — гэта ж падставовы даход сялян, бо ў Карыцісках і курэй і кароў даволі многа.

У клубе сабралася каля 100 чалавек. Аднак у ім не цесна. Пайшла гутарка ў нас пра моду, пра «міні» і «максі», ды ўсім прысутным найлепш падабаецца ўмеранае «міні». А далей і пра космас пачалі гаварыць, і пра сілу навукі, якая дазваляе пабудаваць такія ракеты, якімі можна залянець на Месяц.

Насупраць мяне сядзіць сакратар мясцовай грамадскай рады нарадовай — Вася Кудэрскі. У яго на руках двухгадовая дзяўчынка. Яна ўсюды з татам. Памерла яе мама на 24 годзе жыцця. І Вася Кудэрскі кажа: — На Месяц далятаюць, навука аб космасе зайшла далёка. Але ў медыцыне зроблена малавата.

Падчас гэтага спаткання з журналістам «Нівы» былі закрануты пытанні аб патрэбе існавання ў вёсцы гуртка Беларускага таварыства.

— Накіруйце да нас савецкія фільмы, беларускіх пісьменнікаў і «Лявоніху», — з просьбай звярталіся да мяне прысутныя.

Пасля расказваў я аб ролі і заданнях Беларускага таварыства. Нашая сустрэча закончылася ўтварэннем гуртка БГКТ, у рады якога ўступіла 29 асоб.

МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ

Пачатак на стар. 1




вы для ўсялякіх людскіх манераў, калі не прыносяць яны грамадскай шкоднасці. А ён, Варапаеў, нікому ў нічым не перашкаджае. «Чудзілішчам» жа XX стагоддзя з'ўляецца не ён — Варапаеў, а яна — парыжанка, якая такіх простых спраў не разумее.

І Варапаеў ездзіць надалей цэнтрам горада. У бакавых вуліцах Варапаеў менш ашаламляе. Падпітыя мужчыны з-пад будкі з півам чуюцца з ім амаль за пан-брат і часам крычаць да яго:

— Э, ты, пакінь гэтага свайго мула, хадзем лепш на водку.

Варапаеў, быццам абражаны такой фамільярнасцю, адказвае злосна:

— Я не для водкі жыву!

— А для чаго ты жывеш?

— Я жыву для свету.

І слушна. Падумайце, на колькі бяднейшы быў бы свет, а прынамсі горад Беласток, калі б не было Варапаева. Калі Варапаеў праязджае, рэдка хто вытрымлівае, каб не затрымацца і не кінуць на дзівака зрокам. Варапаеў аб гэтым ведае і дзеля гэтага пераносіць шэраг пакут. Жыццё з такім кокам перад носам, напэўна не лёгкае — трэба ж яго неяк даглядаць, прышпільваць, кок перашкаджае глядзець. Свае фрукты мог бы Варапаеў прадаваць непадалёк ад хаты на Баярах, але ён штодзень едзе некалькі кіламетраў на вуліцу Бэма — у спякоту, дождж і снег — з адкрытаю галавою, распушчанымі валасамі і кокам з цяжкім штучным алмазам спераду. Робіць гэта «для свету». Свет, а прынамсі Беласток, мае штодзённы тэатр для ўсіх, хто выпадкова апынуўся на вуліцы. Тэатр чыстага абсурду. Бо паводзіны Варапаева зусім абсурдальныя — гэта ясна. Але абсурдальным з'ўляецца і што іншае: спаднічкі міні, прыкрытыя плашчамі максі, валасы, маляваныя раз на белы колер, потым на чорны, потым на рыжы, потым зноў на белы, футры па 40 тысяч злотых і маладзёжныя нагавіцы, якія цэняцца тым больш, чым больш у іх дзірак і латак.

Варапаеў ставіць нас перад пытаннем: чым горшы мой чысты абсурд ад вашага абсурду, прыкрытага выглядам рацыянальнасці? Ну, дакажыце — чым ён горшы? Зразумела, даказаць ніхто гэтага не зможа. І адтуль злосць некаторых грамадзян і патрабаванні, каб адміністратыўна забараніць гэтаму мастаку чыстага абсурду праязджаць цэнтрам горада, каб даць яму міліцыйны загад падстрыгчы валасы, пабіць павозку, зарэзаць мула. Бо пытанне, якое ставіць перад намі Варапаеў, сапраўды раздражняючае.

РЫГОР ПАЎЛЮК

# ЦІ БУДЗЕ ЦПН У КРЫНКАХ?

У Крынках і ваколіцы дзесяткі, а можа і сотні розных матацыклаў ды матацыклікаў. Усе яны зжыраюць мора бензіну, па які трэба ехаць аж у Саколку, аж каля трыццаці і больш кіламетраў, калі лічыць ад далёкіх Крушынянаў. Толькі ў Саколцы можна купіць бензін, там бензінная станцыя ЦПН.

Калі ў Крынках або ў ваколіцы паявіцца машына, адразу збягаюцца да яе матацыклісты, якія просяць шафёра: прадай, пане, хоць пару літраў бензіну, заплацім падвойна. Словам, бензін тут часамі даражэйшы за гарэлку...

Ці будзе станцыя ЦПН і ў Крынках, мястэчку мала меншым ад Саколкі?.. У Беластоку сказалі «Ніве», што будзе ЦПН у Крынках. Будова станцыі тут мела пачацца ў 1971 годзе, але не пачнецца. Не пачнецца па той простай прычыне, што энергетычны раён запатрабаваў, каб пабудаваць пры станцыі ...энергетычную падстанцыю, словам, паставіць трансфарматар. На гэта дырэкцыя ЦПН-у ў Беластоку не мае грошай, просіць дапамогі ў Павятовай рады.

Справа будовы ЦПН у мястэчку, як відаць, крыху забалаганілася. Гэта вынік хітрасці паміж энергетычным раёнам і беластоцкай дырэкцыяй ЦПН-у. У чым тут сэнс? Сэнс тут у тым, што ЦПН-у не аплачваецца будаваць энергетычную падстанцыю з увагі на невялікую электрычную моц, якая будзе патрэбна крынкаўскай бензіннай станцыі. А энергетычны раён «насядае» на тое, каб будаваць, бо палепшылася б моцаздольнасць мясцовай энергасістэмы. Дырэкцыя ЦПН згодна аплаціць будову падстанцыі, але толькі часткова: аб даплаце, ці аб другой палове, просіць і Павятовую раду, і іншыя зацікаўленыя інстытуцыі Сакольшчыны. ЦПН не ўступіць, ён і так заплаціць не менш паўтара мільёна злотых за збудаванне самой бензіннай станцыі. Калі Павятовая рада не знаровіцца, дык Крынкі будуць мець свой ЦПН у 1972 годзе. (ся)

# KonTraSTy

Ліпеньскі нумар адкрывае абшырны артыкул Яна Дзюбы — «Слова — хлеб пахучы». Піша ён пра народных паэтаў і празаікаў, якія яшчэ сёння жывуць на Беласточчыне.

«Найбольш вядомыя народныя паэты нашага ваяводства — гэта Меланія Бужынская, Францішак Свянціцкі, Ірэна Сушынская і Эльжбета Данішэўская, а сярод народных творцаў, якія займаюцца непаэтыцкімі жанрамі літаратурнай творчасці — Тэадозія Яглоўская і Шчапан Дзям'ян...»

Ян Дзюба называе яшчэ шмат іншых прозвішчаў людзей, якія адчуваюць нейкую ўнутраную патрэбу творчага выказвання сваіх пачуццяў, ён бароніць народных літаратараў і слушна ўказвае, што «...народная творчасць была і ёсць бяздоннай крыніцай нашай культуры».

«Штогод Белавежскую пушчу... наведвае амаль 100 тысяч чалавек, а сярод іх звыш 2,5 тысяч замежных гасцей», — піша Чэслаў Аколуў і пытае: чаго яны там шукаюць? На гэтае пытанне адказвае яго артыкул, дадаць трэба — цікавы артыкул.

Пад канец ліпеня мы будзем адзначаць 50-ую гадавіну ўзнікнення ў Беластоку Часовага рэвалюцыйнага камітэта Польшчы. Яго прэсавым органам была газета на польскай мове «Гонец чырвоны». Пра што пісала гэтая газета, інфармуе Ф. Левіцкі.

Затым у «Кантрастах» варта прачытаць: патрасаючы рэпартаж Анны Зарэмбіны пра быўшых вязняў гітлераўскіх лагераў смерці, А. Штахельскай пра гісторыю герба горада Беластока і рэпартаж З. Насядкі пра курпёўскую вёску Лысэ, а сярод пастаянных рубрык варта заглянуць ў тую, дзе Г. Валкавыцкі рэкамендуе «Поленіка ў суседзяў за мяжой»; на гэты раз піша ён пра беларускага мастака Пятра Сергіевіча. (вр)

# Малочны тэхнікум папулярны

Яшчэ некалькі год таму назад у Малочны тэхнікум, які існуе ў Беластоку, паступала перш за ўсё моладзь гарадская, а таксама моладзь з іншых ваяводстваў (такіх тэхнікумаў усяго чатыры ў Польшчы). Сёлетнія ўступныя экзамены паказалі, што папулярнасць тэхнікума расце ўжо і сярод нашай вясковай моладзі, якая бачыць сваю жыццёвую перспектыву ў сельскагаспадарчай дзейнасці. У сярэднім было каля трох кандыдатаў на адно свабоднае месца ў гэтай школе. Прымаліся перад усім добрыя вясковыя вучні.

Малочны тэхнікум адыгрывае штораз большую ролю ў эканоміцы нашага ваяводства. Вынікае гэта з таго, што будучыня Беласточчыны ў развіцці сельскай гаспадаркі, асабліва, жывёлагадоўлі. (ся)

ЛЕТАМ 1941 ГОДА (1)




(З ВАЕННАГА ДЗЁННІКА НЯМЕЦКАЙ ПАЛІЦЫІ)

У народзе ёсць гаворка: *«Напішаш пяром, дык не вырубіш тапаром»*.

Афіцэр гітлераўскай паліцыі, *оберлейтнант дэр шуцполіцай Уль*, пісаў, па праўдзе, не пяром, а машынкай, аднак гэтаму, што напісаў, ніхто не зможа запярэчыць, тым больш, што ён пісаў не па ўласнаму жаданню, а таму, што на аснове спецыяльнага дэкрэту Гімлера загадаў яму пісаць яго начальнік, маёр Надэль.

Дык паліцэйскі паручнік, пачаўшы ад 10 чэрвеня 1941 года дзень у дзень запісваў «баявыя дзеянні» 322 паліцэйскага батальёна, які шчодра выкупаўся ў крыві нашых землякоў.

Пра гэта аднак хай ён сам раскажа. Ва ўступе Уль сцвярджае:

*«Школьны батальён паліцыі «Вена-Карган» 15 красавіка 1941 года на аснове дэкрэту райхсфюрэра СС (...) быў пераіменаваны на 322 батальён паліцыі. Гэтым дэкрэтам устаноўлены асабовы састаў батальёна: 12 афіцэраў, 1 лекар, 5 адміністрацыйных чыноўнікаў, 101 ўнтэрафіцэр і 435 паліцаяў...»*

У той час быў ужо вызначаны тэрмін ажыццяўлення плана «Барбаросса» — тэрмін агрэсіі на Савецкі Саюз. Паліцэйскі батальён 322 рыхтаваўся да завядзення «новага парадку» на «дзікім» усходзе. 6 чэрвеня 1941 года адбылося ўрачыстае развітанне з Венай. Батальён адпраўляўся ў Варшаву. З гэтай нагоды...

*«...6. 6. 1941 г. у 10.00 гадзін дня інспектар парадкавай паліцыі ў Вене — пан генерал-маёр, др Рэцляф развітаўся з батальёнам паліцыі 322. У сваім выступленні пан генерал звярнуў увагу на важную справу, каб кожны член батальёна ў час выконвання сваіх заданняў дасягнуў як найлепшых вынікаў для фюрэра, народа і айчыны, каб кожны ў батальёне ведаў, што ў адносінах да славянскіх народаў ён павінен сябе весці як член народа паноў і быць немцам...»*

Зараз пераканаемся, што пан генерал меў паслухмяных вучняў.

Праз Варшаву і Остраў Мазавецкі паліцэйскі батальён 322 ноччу 6.VII. 1941 г. з'явіўся ў Беластоку. Доўга «адпачываць» яму не дазволілі. Паручнік Уль піша: *«...6 ліпеня 1941 года батальён стаў на кватэры ў Беластоку на вуліцы Пілсудскага 121 (зараз — вуліца Ліпова — В. Р.) (...) Па прапанове камандуючага тылавой тэрыторыяй Сярэдзіна 2 рота ад 21.00 гадзіны была накіравана на вартаўнічую службу ў пераходным лагеры 185...»*

Гэта той лагер для савецкіх запалоненых салдат, які знаходзіўся на Новым Месце ў Беластоку і ў якім ад голаду і здзекаў ахраннікаў загінула 10 тыс. чалавек.

Два дні пазней, 8 ліпеня 1941 г., паручнік Уль апісаў у сваім ваенным дзённіку першую «баявую» аперацыю, якую ў Беластоку правялі яго камраты.

*«Батальён у гадзінах ад 5.00 да 16.00 у замацаваным за ім раёне адрэзка (Б) правёў рэвізію яўрэйскага квартала, які абмяжоўваюць: чыгуначная лінія галоўнага вакзала і вуліцы: Дамброўская, Кракаўская і Сасновая. У выніку гэтай рэвізійнай акцыі знойдзена ў яўрэйскіх і польскіх дамах ваенная здабыча, якая была пагружана на 20 аўтамабіляў.*

*Гэтую ваенную здабычу састаўляюць: усялякага роду харчовыя і спажывецкія прадукты, мыла, вырабы са скуры, тэкстыльныя матэрыялы (на плашчы і касцюмы), кухонныя прылады, пліты гумы рознай велічыні і паляўнічая стрэльба (...) Не сустрэлі асоб, якія мелі б зброю. Быў застрэлены адзін паляк (...), іншага паляка, таксама ў час спробы ўцёку і актыўнага супраціўлення застрэліў СД-ман (служба бяспекі — В. Р.), які прымаў удзел у правядзенні рэвізіі. Адну польскую жанчыну застрэліў салдат на пасту пасля патройнага закліку спыніцца.*

*На аснове багатых вынікаў першай рэвізійнай акцыі ў невялікай частцы яўрэйскіх памяшканняў трэба меркаваць, што ў час далейшых пошукаў ва ўсіх яўрэйскіх і польскіх памяшканнях можна будзе дастаць вялікую колькасць засвоенай маёмасці.*

*12 яўрэяў і 4 палякі, так як яны пярэчылі, што не маюць ваеннай здабычы, было прытрымана СД і затым расстраляна СД і першай камандай першай роты ў лесе пад Беластокам.*

*Цэлая здабыча была ўпарадкавана, перапісана і складзена ў некалькіх складах прафесіянальнай школы ў кватэры батальёна ля вуліцы Пілсудскага.*

*У 16.20 неспадзявана паявіўся ў батальёне райхсфюрэр СС (Гайнрых Гімлер — В. Р.), камандзір батальёна (маёр Надэль — В. Р.) далажыў аб сабе і батальёне райхсфюрэру СС. Райхсфюрэр СС пытаў пра характар службы і накоплены вопыт. Затым наведаў месца магазінавання здабычы батальёна. Пасля накіраваўся да вышэйшага камандзіра СС і паліцыі фон дэм Баха. Вечарам вышэйшы камандзір СС і паліцыі ў гонар госця наладзіў банкет, на які быў таксама запрошаны камандзір батальёна...»*



Ганак — веранда І. Міхальчука з вёскі Паўлы, Бельскага павета.



Ганак — веранда Міхася Пракапюка з вёскі Крывая, Бельскага павета.



Ганак — веранда Мікалая Кардаша з вёскі Нараўка, Гайнаўскага павета.

*ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ*

# ГАНАК - ВЕРАНДА

Ганак — веранда будуецца на крыху большых цэментавых пляцоўках (6—10 м²), маюць розныя формы дашкоў, (двухсхільны, аднасхільны, авальны і г. д.), філянговыя дзверы і ўпрыгожаныя вокны, якія складаюць іх асноўны дэкаратыўны элемент. Пры дапамозе ўкладкі пад рознымі вугламі рамаў і застасаванні дэкаратыўнага шкла атрымліваюцца цікавыя кампазіцыі. Замешчаныя ніжэй тры фотаздымкі ганкаў — веранд (У. Юрчука — Нурэц, Я. Жукоўскага — Пілікі і М. Грыгарука — Целушкі) маюць даволі эфектоўную ўкладку аконных рамаў. Тут дапушчаны розныя стылі, але захавана ва ўсім сіметрыя.

Ізноў чарговыя фотаздымкі ганкаў (М. Кардаша — Нараўка, І. Міхальчука — Паўлы, М. Пракапюка — Крывая) ілюструюць іншую простую ўкладку рам, пры якой захаваны аднолькавы стыль, што таксама стварае прыемнае візуальнае ўражанне.

Ганкі малююцца разам з хатамі такімі ж колерамі, а аконныя рамы амаль заўсёды белай або ясна-сіняй алейнай фарбай.

*

Гэты даволі вялікі на ўмовы нашага тыднёвіка цыкл артыкулаў, апрацаваны на падставе ўсяго некалькіх сотняў фотаздымкаў, не можа прэтэндаваць да вычарпання тэмы. Павінен ён быць патрактаваны як нейкі ўступ да глыбейшага даследавання мала наогул вядомай галіны матэрыяльнай культуры беларускага насельніцтва паўднёвага ўсходу Беласточчыны. Добра было б, каб ён выклікаў зацікаўленне мясцовых аматараў — этнографаў, а таксама нейкую дбайнасць самога насельніцтва над уласнай архітэктурнай разьбой, патрэбу яе кансервавання (малявання, дапаўнення) і захоўвання для наступных пакаленняў.

У. ЮЗВЮК

*Фота аўтара*



Ганак — веранда Уладзіміра Юрчука з вёскі Нурэц, Сямяціцкага павета.



Ганак — веранда Язэпа Жукоўскага з вёскі Пілікі, Бельскага павета.



Ганак — веранда Мікалая Грыгарука з вёскі Целушкі, Бельскага павета.

Пасля крыві палілося шампанскае. Орднунг мус зайн! — парадак павінен быць. Дык батальённы летапісец пад гэтай жа самай датай — 8 ліпеня 1941 года — падводзіць:

*«...Ад пачатку акцыі ў Беластоку былі застрэлены батальёнам 22 асобы, у тым ліку 1 жанчына...»*

Батальён заставаўся ў Беластоку да 17 ліпеня 1941 года. Гэты перыяд часу паручнік Уль падсумаваў вось так:

*«...У час выконвання заданняў батальёнам у Беластоку ад 6. 7. 1941 г. да 17. 7. 1941 г. па прычыне раскрадання або спробы ўцёку застрэлена было 105 цывільных асоб і салдат рускага войска (палонных). Сярод іх знаходзіліся 94 яўрэі.*

І пры гэтым ён яшчэ дабаўляе: *Пахмурна, стан здароўя* (паліцаяў — В.Р.) *добры».*

На пяць дзён батальён адправіўся ў Баранавічы, а затым 23 ліпеня 1941 г. сустракаем яго ў Белавежы. Тут ён праславіўся яшчэ горш, як у Беластоку. Пра гэта раскажа нам паручнік Уль наступным разам.

В. РУДЧЫК

**P. S.** *Для гэтага цыкла артыкулаў мы выкарысталі матэрыялы, якія знаходзяцца ў распараджэнні Ваяводскай камісіі па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў. Камісія дзейнічае ў Беластоку пры Ваяводскім судзе. Просіць яна ўсіх, хто штоколеч ведае пра апісаныя тут факты або пра іншыя злачынствы гітлераўскіх захопнікаў, паведаміць ім аб гэтым.*

# ЯШЧЭ РАЗ АБ ПАЎЛАЎСКІХ САМАДЗЕЙНІКАХ

Ёсць такія драмгурткі з беларускім рэпертуарам, якія не спыняюць дзейнасці і якім ужо па 10 і больш гадоў. Такім менавіта з'яўляецца паўлаўскі мастацкі калектыў. Усе п'есы выданыя Галоўным праўленнем БГКТ, а іх было шмат, ставіліся гэтым гуртком. Не мелі б з чым працаваць і выступаць самадзейнікі, каб не было там ініцыятывы, знаходлівасці, клопатаў аб тым, каб паставіць на сцэне нешта цікавае і арыгінальнае. У гэтым дапамагаюць заўсёды настаўнікі мясцовай школы і кіраўнік яе Аляксей Максімюк. У апошні час актыўна ўключылася да мастацкай самадзейнасці настаўніца Валянціна Амельянюк, якая з'яўляецца не толькі мастацкім кіраўніком, але і душою самадзейнікаў. Яна таксама з'яўляецца дасканалым артыстам (аб гэтым мы ўжо пісалі ў «Ніве» і друкавалі яе здымак падчас выканання ў п'есе галоўнай ролі).

Добрымі артыстамі з'яўляецца таксама: Лёня Харытанюк, Мікалай Нікіцюк, Марыся Андрэюк, Ніна Букач, Ліда Аляксеюк, Ліда Андрэюк, Ніна Пашкоўская, Люба Галубоўская, Коля Філіпюк, Пеця Іванюк, Юрка Пашкоўскі, Аркадзь Мароз, і іншыя. Уключыўся да мастацкай самадзейнасці і мясцовы музыкант Віталі Мартынюк. Прыяцелямі паўлаўскага драмгуртка з'яўляюцца таксама два браты — музыканты з суседняй вёскі Стрэльцы — Лёня і Толік Сцепанюкі. Паўлаўскі мастацкі калектыў выязджае і ў суседнія вёскі. Напрыклад у маі і ў чэрвені выязджаў ён кожную нядзелю. Пабываў у Сацах, Войшках, Дарожках, Гнецюках і іншых вёсках. З выездамі былі б вялікія цяжкасці, але цяпер іх няма. Мікалай Аляксеюк мае свой мікробус «Нысу» і калі трэба, заўсёды возіць сваіх аднавяскоўцаў. Гэта грамадная прыслуга для самадзейнікаў, у складзе якіх ёсць і яго дачка Ліда.

21 чэрвеня вечарам паўлаўскія самадзейнікі другі раз выступілі ў сваёй школе, адзначаючы гэтым 25-ую гадавіну перамогі над фашысцкай Германіяй. На пачатку настаўніца Валянціна Амельянюк напомніла прысутным аб ваенным перыядзе, аб аграмадных ахвярах у людзях і разбурэннях гарадоў і вёсак. Затым прысутныя яшчэ раз паглядзелі п'есу «Аповесць аб загінуўшым салдаце», якая навязвае да падзей тых страшэнных часоў.

У гэтай мастацкай частцы выступіў і харавы калектыў, які таксама спадабаўся аднавяскоўцам.

Паўлаўскія самадзейнікі ў гэты ж самы дзень самі для сябе арганізавалі вечарыну. Два браты — музыканты са Стрэльцаў ігралі. Было прасторна, было прыемна і цікава, таму што і анекдоты, і расказы, і песні, і танцы — складаліся на гэтую сямейную вечарыну. У бягучым культурным годзе гэта было апошняе выступленне самадзейнікаў, якія некалькі месяцаў будуць цяжка працаваць на гаспадарцы, бо ўжо пачаўся самы працаёмкі перыяд на вёсцы. Ды настаўніца Валянціна Амельянюк таксама на больш як два месяцы выедзе з Паўлаў у сваю вёску Дзяніскі. Гэта вечарына ў асноўным у гонар сваёй каханай настаўніцы і была арганізавана.

М. ХМЯЛЕЎСКІ

# ШТО ЧУВАЦЬ?

### ПРА АШЧАДНЫХ ГАСПАДЫНЬ

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае звыш 100 ашчадна-пазыкавых спулдзельняў (СОП). Стараюцца яны заахвоціць да грамадскай дзейнасці вясковых гаспадынь. Жаночыя калектывы супрацоўнічаюць амаль з усімі спулдзельчымі банкамі. Няма іх толькі ў Нараўцы, Пухлах, Карыціне і Кавалях Алецкіх.

Высокай актыўнасцю ў распаўсюджванні ідэі ашчаднага жыцця адзначаюцца жанчыны ў Гайнаўскім павеце. Членамі спулдзельчага банка ў Гайнаўцы з'яўляецца амаль 330 жанчын, а звыш 800 вясковых гаспадынь мае ашчадныя кніжкі СОП.

Асабліва шмат часу адводзяць яны на арганізаванне апекі над дзецьмі ў час тэрміновых палявых работ.

### ПРА СВЕЦКУЮ КУЛЬТУРУ

Таварыства распаўсюджвання свецкай культуры, як яго назва ўказвае, займаецца менавіта прапагандай гэтай культуры. У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 258 гурткоў гэтага таварыства, якія аб'ядноўваюць амаль 5 тысяч членаў.

Многа гэта ці мала? Аказваецца, што мала, бо гэты лік і членаў, і гурткоў дае прапагандыстам свецкай культуры на Беласточчыне апошняе месца ў краіне.

### ПРАЗ ЗВЕРСТВЫ ГІТЛЕРАЎЦАЎ

Ваяводская камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў займаецца зараз распрацоўкай усяго таго, што ў час гітлераўскай акупацыі тварылася ў вёсках сённяшняй Беласточчыны. Асабліва цікавіць камісію пацыфікацыя вёсак. Дзеля даследавання гэтых праблем паклікана спецыяльная рабочая падкамісія, якую ўзначальвае сакратар Ваяводскага праўлення ЗСЛь.

Дагэтуль устаноўлена, што ад гітлераўцаў пацярпела 140 вёсак, якія знаходзяцца ў межах сённяшняга Беластоцкага ваяводства. Асабліва многа слёз і бяды пакінулі гітлераўскія захопнікі на тэрыторыі цяперашняга Гайнаўскага павета.

У 60-ці выпадках камісія закончыла ўжо даследаванне спраў, а матэрыялы пераказала ў Варшаву, каб патрабаваць пакарання віноўных у гэтым злачынстве гітлераўцаў.

### ПРА ЛЕТНЮЮ АПЕКУ НАД ДЗЕЦЬМІ

Гурткі вясковых гаспадынь кожны год наладжваюць дзяцінцы для вясковых дзяцей у час тэрміновых палявых работ. У гэтым годзе маюць намер яны наладзіць 375 такіх дзяцінцаў у Беластоцкім ваяводстве. У Бестоцкім павеце будзе іх 25, у Гайнаўскім і Бельскім паветах — па 22, у Сямяціцкім — 19, а ў Сакольскім 18.

Сельскагаспадарчыя гурткі на арганізацыю дзяцінцаў адводзяць амаль 350 тысяч зл. У ажыццяўленні гэтай карыснай акцыі прыходзіць з выдатнай дапамогай ПЗУ. Ад гэтай арганізацыі вясковыя дзеці атрымаюць 190 тысяч зл. Бацькі за апеку ў летніх вясковых дзяцінцах плацяць толькі 100 зл. у месяц і толькі ў тым выпадку, калі іх дзеці харчуюцца ў дзяцінцах.

### ПРА СЁЛЕТНІХ ВЫПУСКНІКОЎ

Сярэднія прафесіянальныя школы (тэхнікумы), якія знаходзяцца ў Беластоцкім ваяводстве, закончыла ў гэтым годзе звыш 1800 выпускнікоў.

Гэты год быў выключны для ліцэяў. Апошні матуральны клас мела толькі 5 агульнаадукацыйных ліцэяў у ваяводстве. Вучылася ў іх усяго 150 вучняў.

*Падслухаў*

М. НУРЭЦКІ




### МАЛОЧНЫЯ КАКТЭЙЛІ

Кактэйлі з'яўляюцца дасканалым напіткам на маладзёжных спатканнях, розных прыватках, вечарах і г. д. Моладзь можа культурна і міла пагуляць, не ўжываючы алкаголю.

Наогул кактэйлі з'яўляюцца проста атракцыйнай формай піцця малака, паколькі іх падставай найчасцей з'яўляецца малако і малочныя напіткі (кефір, смятанка і г. д.). Да веснавых кактэйляў дадаем перш за ўсё ягады, сокі, мёд, какао і інш.

Кактэйль мяшаем у міксеры 30 секунд. Калі хто не мае міксера, хаця ручнога, можна кактэйль узбіць венічкам, якім мы звычайна ўзбіваем бялкі. Усе складнікі, з якіх мы робім кактэйль, трэба ахаладзіць да тэмпературы 6—8°. Перад падачай добра яшчэ было б налажыць у кожную шклянку з кактэйлем 1—2 косткі лёду. Вельмі халодныя кактэйлі трэба падаваць з саломкай, дзякуючы якой мы п'ем паволі і не прастудзім горла. Асабліва неабходна памятаць аб саломцы, калі мы падаем халодныя кактэйлі дзецям.

Кактэйлі звычайна падаюць у высокіх, так званых «кактэйлевых» шклянках. Для большага эфекту варта бераг шклянкі намачыць у бялку, а пасля ў цукры — крыштале, тады бераг шклянкі выглядае, як замарожаныя іголкі ільду. Можна аздобіць шклянкі інакш, напрыклад, павесіўшы на берагу шклянкі надрэзаны скрылёк апельсіна, лімона, альбо 2 спалучаныя вішанькі.

Грэхам было б, калі б вясной мы не зрабілі *кактэйлю з трускалак.* 10 трускалак ачысціць, памыць і асушыць, палажыць у міксер, дадаць 2 бутэлечкі (паўлітра) халоднага кефіру, 2—3 лыжачкі цукру і паўмінуты ўсё ў міксеры (электрычным) размешваць. Ясна, што калі электрычнага міксера хто не мае, дык работы будзе крыху больш.

На вясну, калі арганізм змучаны доўгай зімой, добра было б дадаць яму вітамінаў, робячы *кактэйль яечны з мёдам.* І жаўток расціраем з мёдам (2—3 лыжачкі), дадаем малако (1,5 шклянкі) і размешваем у міксеры. Зімой гэты кактэйль падаем гарачы і з белымі сухарамі.

Вельмі многа вітамін мае таксама *кактэйль з чорных парэчак,* які найлепш рабіць з парэчкавага нектару (паўшклянкі), кіслага малака (1,5 шклянкі) і 2 лыжачак цукру.

Для ахалоды — *шакаладны кактэйль з лёдамі (марожаным).* 4 малыя косткі шакаладу раскрышыць, распусціць у гарачым малацэ (1,5 шклянкі) ды ахаладзіць, да малака дадаць 2 лыжачкі цукру і размяшаць у міксеры. Перад падачай палажыць у кактэйль лёды (марожанае). На такую прапорцыю найлепш узяць адно марожанае «Бамбіна».

*Гаспадыня*

## НАВЕЧНА Ў РЫЮ-ДЭ-ЖАНЕЙРА

У чэрвеньскія тыдні свет быў прыкаваны да тэлевізараў. Барацьба за «Залатую багіню», якая разгарэлася на мексіканскіх палях, прыцягнула ўвагу нават тых, якія ніколі не былі на спартыўным стадыёне. Яшчэ раз была прадэманстравана магутная прыцягальная сіла футбола. І яшчэ раз кіраўнікі нашай тэлевізіі выказалі зайздросную вытрымку ў ігнарыраванні сваіх гледачоў. Не пусцілі ніводнага матча. Што ж, хіба ў гэтым яны рэкардсмены. Уяўляю, які жаль маюць да іх мільёны польскіх сімпатыкаў найбольш папулярнага віду спорту.

У Беластоку было паўбяды. Новы лес «гродзенскіх» антэн, які вырас напярэдадні чэмпіяната, дазволіў нам быць удзельнікамі гэтага захапляючага футбольнага спектакля, якім, несумненна, быў чэмпіянат. Праўда, не на кожнай беластоцкай вуліцы праграма з Гродна прымаецца добра (слабая станцыя!), але найважнейшае — можна яе бачыць: калі не ў сябе дома, дык у знаёмых.

Былі мы сведкамі перамог і паражэнняў, бачылі напружанае змаганне такіх волатаў як Бразілія і Англія, Заходняя Германія і Італія, захапляліся натхнёнай гульнёй бразільцаў і абураліся скандальным судзействам некаторых арбітраў. Словам, жылі Мексікай.

Цяпер, калі астылі страсці, можам глянуць на чэмпіянат больш аб'ектыўна. Адно для нас яснае: выйграла дружына найлепшая, «Залатая багіня» навечна пасялілася ў Рыю-дэ-Жанейра. Гэта аптымістычны бок апошняй сусветнай баталіі ў футболе. Спосабы, якімі многія імкнуліся заваяваць найдаражэйшы футбольны трафей, нічога не мелі супольнага з сапраўдным спортам і наводзяць на песімізм. Успомнім толькі некаторыя кветкі. Пакуль не выбылі з далейшых гульняў гаспадары



*Вось яна — «Залатая Ніке» — у руках капітана бразільцаў Карласа Альберта.*

чэмпіяната, мексіканскія балельшчыкі наладжвалі перад кватэрамі сапернікаў такія канцэрты (усеначныя), што не было мовы аб нармальным адпачынку. А ў групе, у якой змагаліся заходнегерманскія футбалісты, дзейнічаў нават «атрад» прыгожанькіх немак, заданнем якіх было ўчыніць спусташэнне ў стане праціўніка яшчэ да сустрэчы на поле бою. І, відаць, не выпадкова прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі футбола Стэнлі Роўз гаварыў аб існаванні «змовы» і аб падкупліванні суддзяў. Ад апошніх асабліва пацярпела савецкая дружына, якая, не прайграўшы ніводнага матча, вымушана была выбыць з гульняў у паўфінале.



*Яны здабылі «Залатую багіню» навечна*

Перамога бразільцаў настройвае нас аптымістычна, бо выйгралі найлепшыя. Трыумфаваў спорт. Выйгрыш бразільцаў можа мець таксама жыватворчы ўплыў на далейшае развіццё футбола: верх узяло наступленне над абаронай, тэхніка над сілай. А гэта значыць, што ў недалёкай будучыні на футбольных палях убачым новую стратэгію і тактыку, а гаворачы проста — цікавейшую гульню. Гэта будзе найбольшым здабыткам мексіканскага чэмпіяната.

*Рыгор Лясун*

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЗДАГАДЛІВЫ ВАСЬМІНОГ

Амаль ва ўсіх морах — паўночых і паўднёвых — сустракаюцца драпежныя галаваногія малюскі — васьміногі. Буйныя з іх вельмі дужыя, маюць даўжыню тры метры, жывуць у пячорах скал і самі робяць завалы з каменняў.

Улюбёны іх аб'ект палявання — двухстворкавыя малюскі, з якімі, дарэчы, яны ў блізкім сваяцтве. Палюючы на сваіх родзічаў, васьміногі праяўляюць незвычайную кемлівасць. Прасоўваючы ў шчыліну ракавіны вострую рагавую дзюбу, драпежнік, як брытвай, падразае мускулы, якія замыкаюць створкі. Маціцовы домік расчыняецца, і абед гатовы.

Калі ж ракавіна занадта вялікая і расчыніць яе не ўдаецца, васьміног ідзе на хітрыкі. Цэлымі суткамі дзяжурыць ля яе, чакаючы, калі яна расчыніцца сама, і тады імгненна ўстаўляе паміж створкамі камень, не даючы ім зачыніцца, і паядае нутро малюска.

Васьміногаў па праву называюць марскімі ракетамі. Выштурхоўваючы набраную за пазуху ваду праз асобую варонку, яны стралой адскокваюць у выніку рэактыўнай аддачы. Некаторыя васьміногі выкарыстоўваюць гэтую варонку як свайго роду гармату для абароны і нападзення.

### ЗАСЛОНА АД ЗЕМЛЕТРАСЕННЯ

Фантазія? Не. Заслона павінна засцерагаць будынкі ад разбуральнага дзеяння падземных штуршкоў. Гэта заслона не будзе падымацца ўверх ад паверхні зямлі, а наадварот, стане апускацца. Вакол будынка прасвідруюць нахільныя шчыліны глыбінёй каля 20 метраў. З дапамогай выбухаў дыяметр шчылін будзе даведзен да метра, а затым яны будуць засыпаны шлакам. Ён жа і пагасіць падземныя штуршкі. Такім чынам мяркуецца ахоўваць, напрыклад, архітэктурныя помнікі.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...найбольш блізнят родзіцца ў Балгарыі. У адной толькі вёсцы Горна Ботэва, якая налічвае 1740 жыхароў, жыве аж 186 блізнят.

...малярыя яшчэ нядаўна пагражала 1400 мільёнам людзей. Да 1960 года малярыя была ліквідавана на тэрыторыі, на якой жыве агулам 298 мільёнаў людзей.

...найпрыгажэйшыя ў Польшчы кветкі вырошчваюцца на Горным Шлёнску: людзі, якія працуюць у шахтах і гутах, асабліва любяць прыроду.

...найцяжэйшыя ў свеце арэхі растуць на выспах Індыйскага акеана. Вага аднаго арэха даходзіць да 30 кг.

...найвышэйшая тэмпература ў свеце: +57,5; Лівія, 13 верасня 1922 г.

## Чвэрць стагоддзя назад




### АПОШНЯЯ ХЛУСНЯ ТРЭЦЯГА РЭЙХА

Можна запытаць аб тым, ці бываюць у хлусні маштабы. Ёсць нават такая думка, згодна з якой чым большая хлусня, тым хутчэй у яе паверацць.

У пытанні аб смерці Гітлера і падыходзе да яго з боку кіраўніцтва трэцяга рэйха таксама ёсць некаторыя маштабы хлусні. Самай вялікай была хлусня афіцыяльная — а іменна, паведамленне, перададзенае па ўсіх радыёстанцыях германскай імперыі І мая і якое гаварыла, што фюрэр Адольф Гітлер загінуў на чале войск, што абаранялі Берлін. Мне здаецца, што ў гэту хлусню — якой вялікай яна ні была б — паверылі вельмі нямногія. Ва ўсякім разе, у яе не паверыў ніхто сярод нас.

Потым пачалі паступаць звесткі аб тым, што Гітлер застрэліўся. Гэта версія паступова заваявала сабе месца ў розных мемуарах, таксама ў гістарычных даследаваннях. Аб гэтым піша аўтар кнігі «Апошнія дні імперскай канцылярыі» ратмістр Больдт; гэта сцвярджае «рэйхсюгендфюрэр» Артур Аксма, які жыве дагэтуль, да такога ж вываду прыходзяць многія даследчыкі (Фэст, Трэвар-Ропер, Шырэр).

Адным з першых заходніх даследчыкаў, які падверг сумненню гэту версію, быў Эрых Кубі. У сваёй кнізе «Рускія ў Берліне ў 1945 годзе», якая друкавалася спачатку ў часопісе «Шпігель», ён пісаў: «Людзі з акружэння фюрэра былі зацікаўлены ў тым, каб бажаство трэцяга рэйха пакінула жыццё, мужна выстраліўшы ў сябе з пісталета». Але тут жа Кубі рабіў агаворку: «Савецкі ж бок быў у роўнай меры зацікаўлен у тым, каб Гітлер баязліва атруціўся. У абодвух бакоў былі важкія прычыны ўтойваць ісціну».

Кубі, відаць, хацеў быць звышаб'ектыўным — маўляў, скепсіс павінен распаўсюджвацца на ўсіх. Але ён відавочна нелагічны. Калі прытрымлівацца Кубі, то савецкі бок ужо даўно павінен быў бы абвясціць, што Гітлер атруціўся. Аднак гэтага не здарылася — у савецкіх публікацыях да некаторага часу сустракалася і версія пра выстрал.

На якіх фактах грунтуецца вывад аб тым, што Гітлер атруціўся? Прывядзём іх, прычым у пэўнай сістэме.

Першы факт. Медыцынскае заключэнне. Яно зусім адназначнае.

Другі факт. Працэдура апазнання.

Трэці факт. Вынік аналізу абставін самазабойства.

Першыя два факты мы ўжо даследавалі. Цяпер выкарыстаем матэрыялы следства, што вялося ў Маскве. Калі гэта следства пачалося, то высветліліся цікавыя абставіны: незвычайны разнабой у звестках, што датычацца самога моманту самазабойства. Тыя, хто, здавалася б, мог ведаць і памятаць, не памяталі і не ведалі самага істотнага. У гэтых адносінах асабліва расплывістымі аказаліся паказанні Гюншэ і Лінге, якія маглі б ведаць больш, чым іншыя.

Дарэчы, яны не ўнеслі яснасці ў справу пасля таго, як апынуліся на волі. Калі ўзяць расказ Лінге, апублікаваны ў № 22 «Шпігеля» за 1965 год, то, паводле яго слоў, пасля развітання, якое адбылося каля трох гадзін дня 30 красавіка, Гітлер зайшоў разам з Евай Браун у пакой, дзе збіраўся пакончыць самазабойствам. Пасля таго як ён зачыніў дзверы, Лінге, нібыта разгубіўшыся, пабег уверх па лесвіцы і ледзь было не выйшаў на вуліцу, аднак спусціўся ўніз, пачуўшы моцны артылерыйскі агонь. Калі ён зноў вярнуўся да дзвярэй, то прыадчыніў іх і адчуў пах пораху. Тады ён паклікаў Бормана, і яны разам зайшлі ў пакой. Як сцвярджае Лінге, Гітлер і Ева Браун сядзелі ў процілеглых кутках канапы, што стаяла ля сцяны. Перад Гітлерам ляжаў пісталет «вальтэр» калібра 7,65. Другі пісталет (калібра 6,35) валяўся тут жа на падлозе. У левай скроні Гітлера была кулявая адтуліна, з якой не капала ні кроплі крыві, з чаго Лінге зрабіў вывад, што Гітлер застрэліўся левай рукой у левую скронь.

Эрых Кубі, які ўзнаўляў расказ Лінге, сам сумняваецца ў яго дакладнасці. Па-першае, вельмі цяжка меркаваць, што Гітлер страляў левай рукой: ён не быў леўшуном. Па-другое, яго рукі вельмі дрыжэлі, у тым ліку і левая. Больш таго: левая рука ў Гітлера дрыжэла больш за правую (гэта было прыкметна яшчэ да замаху на яго 20 ліпеня 1944 года). Дададзім, што пасля публікацыі «Шпігеля» Лінге змяніў версію: не ў левую, а ў правую скроню! Вельмі шмат неадпаведнасцей! Блытаніна і разнабой у паказаннях сведчаць толькі аб тым, што з боку асоб, што былі ў бункеры, прадпрымалася свядомая спроба ўтаіць праўду і заблытаць усіх. А гэта было неабходна для таго, каб стварыць легенду аб фюрэру, што застрэліўся.

Следства, якое вялося ў Маскве, спачатку прыняло гіпотэзу аб выстрале на даследаванне. Зусім выключалася меркаванне, што Гітлер спачатку страляў, потым атруціўся. Не большую верагоднасць меў адваротны парадак: улічваючы хуткае дзеянне атруты, вельмі цяжка ўявіць, што чалавек, які сціскаў ампулу ў роце, меў яшчэ магчымасць пасля дзеяння ампулы націснуць курак пісталета. Значыцца, прыходзілася шукаць трэці варыянт. Ён зводзіўся да таго, што пасля таго, як Гітлер атруціўся, яго прыстрэлілі, так сказаць, для вернасці.

Ёсць шэраг ускосных, але важных сведчанняў, згодна з якімі патрабаванне «прыстрэліць» выказвалася самім

«НІВА» 12 ліпеня 1970 г.
№ 28 (750) 6 стар.

# ТРЫБУНА чытачоў

## УРАЧЫСТАЕ ЗАКАНЧЭННЕ

Урачыста закончыўся навучальны год 1969/70. 20-га чэрвеня ў пачатковай школе ў Старой Луплянцы (Беластоцкі павет). Пасля прамовы кіраўніка школы Міхала Рыгаровіча моладзь выступіла з багатай мастацкай часткай. Асабліва добра выступаў 15-асабовы школьны аркестр. Найлепшым вучням настаўнікі ўручылі кніжныя ўзнагароды. Тры кніжныя ўзнагароды ад беластоцкага павятовага аддзела БГКТ атрымалі найлепшыя вучні па беларускай мове — Юрка Бойка, Антаніна Грыка і Віктар Кардаш. Усім настаўнікам вучні ўручылі букеты кветак.

На заканчэнне ўрачыстасці вучні атрымалі пасведчанні, а затым пачалася пастаноўка.

*Я. Цялушэцкі*

## СЕНАКОСЫ

Дажджлівая вясна мела спрыяльны ўплыў на ўраджай сена. Парасло яно ўсюды добра. Пачаліся сенакосы і пачаліся сонечныя дні, вельмі адпаведныя для сушэння сена. Сяляне як могуць выкарыстоўваюць пагоду. Ва ўсіх вёсках ідзе змаганне за пашу для жывёлы. 21 чэрвеня была пагодная нядзеля, і ўвесь дзень жыхары Рыбалаў, Паўлаў, Стрэльцаў, Дзяніскаў і іншых вёсак аж да позняй ночы звазілі сена. Бо як кажуць, часам адзін дзень корміць увесь год. І таму нельга было не выкарыстаць кожнай гадзіны пагодных дзён. (сс)

## ПРЫКЛАДНЫ ХЛЕЎ

У солтыса Вацлава Страмінскага ў Ячне прыгожыя будынкі. Добра выглядае і хата, і гумно, і хлявы. Менавіта аб хлявах солтыса хацелася б сказаць некалькі добрых слоў. Пабудаваны яны з пустакоў, ды пабудаваныя так, каб на іх паддашы можна было складаць сена. Хлявы маюць вокны, а што найважнейшае, дасканалыя ў хлявах платы, якія адгароджваюць адну жывёлу ад другой. Пароблены прыкладныя жолабы і карыта для коней і кароў. На сена таксама зроблены яслі. Тут не кідаюць сена на зямлю, так як гэта часта сустракаецца на вёсцы. Тут конь або карова не топча сена нагамі, тут яно не марнуецца. Проста прыемна пабыць у такім хляве. (мх)

## СЕЛЬГАСГУРТОК І ЖАНЧЫНЫ

Дзе добрае кіраўніцтва сельскагаспадарчага гуртка, там таксама добра працуе гурток вясковых гаспадынь. Гэтак ёсць у Плянце ў Гайнаўскім павеце. Старшыня сельгасгуртка Антон Грыцук у мінулым годзе выступіў, каб іх арганізацыя аплаціла інструктара, які правёў кулінарны курс, а ў гэтым годзе дапамог, каб жанчыны залажылі рассаднікі пад шклянымі шыбамі. Адным словам, сельгасгурток увесь час дбае аб тым, каб добра развівалася праца і ў гуртку вясковых гаспадынь, які ўзначальвае Марыя Казёл. (мх)

## У СЕМЯНОЎСКІМ КЛУБЕ

Кіраўнік клуба ў Семяноўцы (Гайнаўскі павет) Вера Бірыцкая дбае аб тым, каб добра забяспечыць клуб такімі прадуктамі, як кава, гарбата, аранжада, пернікі, цукеркі. Хапае заўсёды папяросаў, сшыткаў, канвертаў, алоўкаў і г. д. Вера Бірыцкая вучыць усіх наведвальнікаў клуба культурна захоўвацца.

*Марыся Пятручук*




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву я на вёсцы, мне ўжо 20 год. Аднойчы летам пазнаёміўся я з Валяй. Валя мне вельмі спадабалася, я ёй таксама. Яна мне гаварыла, што вельмі мяне пакахала і згодзіцца быць маёй жонкай. Праз нейкі час Валя пазнаёмілася з іншым хлопцам. Аб гэтым мне сказала яе сяброўка. Тады я напісаў пісьмо Валі (бо Валя з іншай вёскі), але нічога не ўспамянуў аб гэтым. Праз нейкі час я атрымаў ад Валі ліст, у якім яна напісала мне, што мяне не кахае, што кахае іншага. Так усё і скончылася. Цяпер я пакахаў іншую дзяўчыну. Лена вельмі прыгожая. Мы перапісваемся. Хацеў бы я з Ленай ажаніцца. Калі я аб гэтым сказаў Лене, яна згадзілася выйсці за мяне замуж. Я ўжо не раз бываў у яе бацькоў і мы сабе спадабаліся. Але мне трэба ісці ў войска. Баюся, што калі я пайду ў войска, дык і Лена пакіне мяне, як пакінула Валя. І не ведаю, што рабіць: чакаць ці жаніцца перад войскам. Парай, Сэрцайка!

*Ваня з Гайнаўшчыны*

Ваня! Пакінула цябе Валя, але як відаць з твайго лісту, не вельмі ж ты ўжо так пераймаешся гэтым, і адчуваю, што нават задаволены, бо ў іншым выпадку не сустрэў бы прыгожай Лены. У тваіх гадах, Ваня, густы вельмі часта змяняюцца. Хутка пакахаў, і хутка забыў. Таму табе яшчэ небяспечна жаніцца, бо што ж ты зробіш, калі праз пару месяцаў сустрэнеш яшчэ іншую, ды раптам і зноў пакахаеш?

Ваня, не жаніся перад войскам. Ты мусіш упэўніцца ў сваіх пачуццях да Лены і наадварот, я таксама набраць даверу да Лены. У супружастве — давер неадлучны, ён цэментуе сям'ю, без яго не можа быць шчаслівага сужыцця. Твая пабыўка ў войску пераканае і цябе, і Лену ў стойкасці і праўдзівасці вашых пачуццяў.

*Сэрцайка*

## БУДЗЕ СВЯТЛІЦА

У Паўлах няма святліцы. А яна неабходная. Жыхары вёскі вырашылі ў бягучым годзе яе пабудаваць. Ад кожнага гаспадара сабралі па 300 зл. Унёс свой грашовы ўклад і мясцовы мастацкі калектыў, і добраахвотная пажарная каманда дала пару тысяч, і сельскагаспадарчы гурток таксама далажыўся. І так сабралася 35 тысяч зл. Прадстаўнікі Паўлаў на чале з Лявонам Харытонюкам дабіліся таго, што для іх вёскі быў бясплатна прызнаны вялікі драўляны будынак у Беластоку, які неабходна з таго месца забраць. Ёсць ўжо дазвол яго разабраць. Сваімі трактарамі паўлаўскі гурток перавязе будынак у сваю вёску. Скончацца сенакосы і жыхары Паўлаў прыступяць да перавозкі, а пасля да яго складання. Будзе стаяць ён па-суседску са школаю і нават можна тут будзе зрабіць памяшканне для аднаго класа, які да гэтага часу знаходзіцца ў прыватнай хаце. У гэтым вялікім будынку атрымае памяшканне і бібліятэка, а магчыма, што знойдзецца ў ім таксама кватэра для настаўніка. (мм)

## НІНА І ОЛЯ

Працы на гаспадарцы заўсёды многа. Многа прыходзіцца працаваць дочкам Ільі Дуба з Дубяжына. Бо і на полі, і на сенажаці, і пры доглядзе жывёлы работы хапае. Маладым жа людзям і паспяваць, і патанцаваць трэба. Ніна і Оля Дуб — прыгожыя дзяўчаты. Ды спяваюць прыгожа беларускія народныя песні. Рыхтаваліся яны да конкурсу на беларускую песню, які быў арганізаваны беларускім таварыствам. Але, на жаль, не прынялі ў ім удзелу. Трохі перашкаджалі сямейныя справы, але трэба сказаць і тое, што ім не хапіла смеласці прыехаць у Бельск Падляшскі на павятовую сцэну і выступіць перад публікай. А шкада, вельмі шкада, таму што Ніна і Оля сапраўды вельмі прыгожа спяваюць. (мс)

## У ВІЛІНАВЕ

У вёсцы Вілінава, што ў Сяміцкім павеце, школьны навучальны год закончыўся ўрачыста. Большай павагі дадала прысутнасць кіраўніка лектаратаў замежных моваў Варшаўскага універсітэта Яна Сабалеўскага, які цікавіцца беларускім асяроддзем. Кіраўнік мясцовай школы Анатоль Мартыновіч выступіў да вучняў з прамоваю. Выступаў таксама і госць. Пасля ўручэння цэнзурак распачалася мастацкая частка. Вучні спявалі і дэкламавалі вершы. А вечарам сабралася моладзь з гармонікам каля школы і зноў спявала. Вілінаўскім звычаем моладзь спявае песні, ідучы па вуліцы. І гэта асабліва цікава. Некаторыя гаспадары нават вокны паадкрывалі, каб мелодыі песень ляцелі ў іх хаты. (сс)

## КАБ БОЛЬШ ТАКІХ

Павел Макула з вёскі Ялова, што ў Дуброўскім павеце, працуе на гаспадарцы разам са сваімі старымі бацькамі, якія не вельмі ахвотна ўспрымаюць новыя метады працы на гаспадарцы. Але іх сын Павел стаўся прапагандыстам усяго новага ў апрацоўцы зямлі. Асаблівую ўвагу звяртае ён на правільнае выкарыстанне мінеральных угнаенняў і на рацыянальнае кармленне жывёлы. Бо Павел Макула завочна вучыцца ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Ружаным Стоку.

Павел Макула — старшыня гуртка БГКТ у Ялове. (мх)

Гітлерам. У кнізе амерыканскага аўтара Нерына Гана пра Еву Браун, што нядаўна з'явілася (яна напісана на падставе расказаў блізкіх сваякоў Евы Браун, а таксама сакратароў Гітлера Юнге, Крысціян, Вольф і Шрэдэр), можна знайсці вельмі цікавыя сведчанні. У прыватнасці, Ган прыводзіць наступнае выказванне Гітлера, зробленае пасля таго, як зайшла гутарка аб магчымасці супраціўлення рускім «са зброяй у руках». Гітлер сказаў:

— Я не магу трымаць у руках ружжо. На першым жа часе я звалюся, і хто ж мяне тады зможа прыстрэліць?

29 красавіка паміж Гітлерам і Крэбсам зноў абмяркоўвалася тэма самазабойства. Крэбс сказаў:

— Лепш за ўсё пусціць сабе кулю ў рот!

На гэта Гітлер засупярэчыў:

— Вядома, гэта так. Але хто ж прыстрэліць мяне, калі выстрал не акажацца смяротным?

Хто ж мог гэта зрабіць? Непасрэдна блізка да Гітлера ў той час знаходзіліся яго ад'ютант Гюншэ, камердынер Лінге, начальнік аховы Ратэнхубэр, пілот Бауэр, Марцін Борман. Савецкія следчыя схіліліся да таго пункту гледжання, што наўрад ці мог гэта зрабіць Борман — чалавек баязлівы. Акрамя таго, маючы ў тыя дні надзею на тое, што ён выратуе трэці рэйх і стане ў ім адной з галоўных дзеючых асоб, Борман наўрад ці мог узяць на сябе смеласць — нават пад прыкрыццём тайны! — прыстрэліць фюрэра. У такой жа меры асоба Ратэнхубэра не давала магчымасці меркаваць, што гэта зрабіў ён.

Асабісты пілот Гітлера Бауэр? Як вынікае з паказанняў сведкаў, у той час, калі Гітлер канчаў жыццё самазабойствам, Бауэр быў заняты больш важнай справай: прабаваў схаваць падарунак, які ён атрымаў ад Гітлера. Гітлер падарыў Бауэру свой любімы партрэт Фрыдрыха II, і Бауэр прадпрыняў усе захады перасцярогі, каб схаваць карціну: ён дастаў яе з рамы, абкруціў вакол трысціны, а гэту трысціну прывязаў да сваёй спіны. Іменна гэтай складанай працэдурай ён быў заняты 30 красавіка.

Увагу савецкіх следчых прыцягнула паказанне брыгадэнфюрэра СС Монке. Ён паказаў на допыце ў палоне, што ўжо 30 красавіка даведаўся аб «самаатручванні» Гітлера. У ліку асоб, якія ведалі пра гэта, ён назваў Гебельса, Бормана, Бургдорфа, Крэбса і Ратэнхубэра. Трое з іх мёртвыя, адзін — знік. А Ратэнхубэр?

Ратэнхубэр таксама трапіў у палон. Знаходзячыся ў Маскве, Ратэнхубэр 20 мая зрабіў пісьмовы запіс аб апошніх днях імперскай канцылярыі. Пра дзень 30 красавіка ён пісаў:

«А першай гадзіне дня я прачнуўся, праверыў пасты і каля чатырох гадзін спусціўся ў фюрэрбункер. Лінге паведаміў мне, што фюрэр пакончыў жыццё самазабойствам, і пасля гэтага яму, Лінге, прыйшлося выканаць самы цяжкі загад фюрэра.

Я ведаў ад д-ра Штумпфегера, што ён павінен быў забяспечыць фюрэра і яго жонку цыяністым каліем. Я быў уражаны паведамленнем Лінге, нягледзячы на тое, што прысутнічаў учора пры развітанні Гітлера. Я апусціўся на крэсла. Лінге сказаў мне, што трупы, загорнутыя ў коўдру, спаленыя ля запаснога ўваходу ў сад.

Далей ён паведамляў, што на дыване засталася крывавая пляма; калі я са здзіўленнем паглядзеў на яго, бо я ведаў, што Гітлер меў цыяністы калій, то Лінге сказаў, што Гітлер загадаў яму выйсці з пакоя і праз 10 мінут, калі ў пакоі нічога не будзе чутна, увайсці і выканаць яго загад. І калі Лінге паклаў на стол пісталет Гітлера, я зразумеў, што гэта быў за «самы цяжкі загад Гітлера».

Далей у сваіх вусных паказаннях Ратэнхубэр удакладніў, што яшчэ адзін чалавек ведаў пра «самы цяжкі загад» — гэта быў яго намеснік крыміналькамісар Петэр Хегль. Хегль, паводле слоў Ратэнхубэра, таксама чуў ад Лінге, што таму давялося выканаць падобны да гэтага загад. На падставе чутага Ратэнхубэр зрабіў вывад:

«Я зрабіў вывад, што Гітлер не быў зусім упэўнены ў сіле ўздзеяння яду на свой арганізм і таму загадаў слузе Лінге праз некаторы час увайсці ў кабінет і прыстрэліць яго».

У гэтых меркаваннях быў пэўны рэзон: вядома, што некаторыя хімічныя рэчывы (напрыклад, цукар) аказваюць нейтралізуючае ўздзеянне на цыяністыя злучэнні. Гітлер сапраўды прымаў вялікія дозы розных сродкаў, якія даваў яму д-р Марэль. А страх «трапіць у рускі заапарк» быў у Гітлера такі вялікі, што ён правяраў дзеянне капсулы з цыяністым каліем на сабаку.

Такім чынам, як было сказана, Ратэнхубэр лічыў, што інсцэніраваў «выстрал» Лінге. Некаторыя савецкія даследавальнікі меркавалі, што гэта быў Гюншэ. Але ў тым ці іншым выпадку зразумела, што нават калі і раздаўся нейкі выстрал у закрытым пакоі, то гэта быў не выстрал, які сведчыць аб самазабойстве ваеннага злачынцы нумар адзін. Можна сказаць, што Гітлера прыстрэлілі, як сабаку, бо і яго сабаку, атруціўшы, дадаткова прыстрэлілі.

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Szepczące ściany" (ang.), 14—15 „Sami swoi" (polski), 16—17 „Ostatni watażka" (bułg.), 18—19.

**Дубіны**

„Lalka" (polski), „Polowanie na mężczyznę" (franc.), 18—19.

**Нараўка**

„Dzika Elżbieta" (czeski), „Tylko umarły odpowie" (polski), 15—19.

**Нарва**

„Koniec agenta W4C" (jugosł.), „Szósty lipca" (radz.), 15—19.

**Чыжы**

„Morderca na zawołanie" (NRD), „Zwariowałeś Toni" (czeski), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**

„Kochać jak Romeo" (jugosł.), „Siedem razy kobieta" (włoski), 15—19.

**Арэшкава.**

„Biały pokój" (bułg.), „Człowiek z M-3" (polski), 18—19.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Adolf" (NRD), „Wniebowstąpienie" (polski), 15—19.

**Райск**

„Dziewczyna" (węgierski), „Miłość i jazz" (szwedzki), 15—19.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Nowy Gilgamesz" (węgierski), 14—15. „Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), 16—17. „Raj na ziemi" (polski), 18—19.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Zwali go Al Capone" (jugosł.), 14—15. „Tajemniczy mnich" (radziecki), 16—17. „Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), 18—19.

**Янаў**

„Ostatni świadek" (polski), 15—19.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Naczelnik Czukotki" (radz.), 14—15. „Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), 16—17. „Raj na ziemi" (polski), 18—19.

**Мельнік**

„Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 14—15. „Tajemniczy mnich" (radz.), 16—17. „Paragon Gola" (polski), 18—19.

**Мілейчыцы**

„Ziemia aniołów" (węgierski), 14—15. „Śpiewa Ywes Montand" (radz.), 16—17. „Paragon Gola" (polski), 18—19.

Hiba

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5693 W—3

# СКАРАЧЭННЕ ШТАТАЎ

*(ЛЯСНАЯ КАЗКА)*

Міхайла Патапавіч толькі сабраўся перавярнуцца на левы бок, як у барлогу пратыснуўся рыжы пушысты хвост, пашчыкатаў гаспадару пяткі.

— Міхайла Патапавіч! — ліслів звала Лісіца. — Міхайла Патапавіч... Бяроста ад Льва...

Міхайла Патапавіч крэкнуў, высунуўся з барлогі. А бяроста ўжо разгладжана, свеціцца на сасновым пні.

— Пра скарачэнне кіраўнічага штату? На трынаццаць працэнтаў?! — пачухаў Міхайла Патапавіч за вухам. — А што? Урэжам... Вунь колькі лішніх ратоў развялося! Клікаць звярыны савет!

Сарокі — белабокі дружна разнеслі кліч па ўсім лесе. Мігам збегліся звяры на палянку.

Так і так, зарычэў Міхайла Патапавіч. Спушчана бяроста. Пра скарачэнне кіраўнічага штату.

Скарачаць або не скарачаць — пра тое звяры спрачацца не сталі. Наконт гэтага ёсць бяроста. Прыняліся да выканання. Пачалі раіцца, каго скарачаць. Ваўка! Шмат несправядлівасці ўчыняе шэры іншым звярам! Але за Ваўка заступіўся сам Міхайла Патапавіч. Ёсць, канечне, у Ваўка хібы! Можа каго і не вінаватага загрыз. Дык жа хто дугі не гне, той і не перагінае. Як жа ў апараце без Ваўка? Без добрага памочніка як без рук!

Пакінулі Ваўка ў штаце.

Можа скараціць Лісіцу? Толькі хвастом хітруга круціць. На вушка нашэптвае...

Але за Лісіцу заступіўся Воўк. Ёсць, вядома, у Лісіцы недахопы. Іншы раз занадта... на самога Ваўка... інфармуе... Толькі ж з другога боку глянуць, дык клапатуха Лісіца — усім родная сястрыца! Разуміца! Навяла чысціню ў прыёмнай. Кожны дубовы лісток падкалола. А хвост... Раскошны хвост — не раскоша... У спякоту, калі да шаноўнага Міхайла Патапавіча мухі пішчом лезуць — лепей ускакга веера. У сцюжу яму задні лапы грэе... Ды і хто без Патрыкееўны восенню курапат пералічыць?!

Рашылі пакінуць Лісіцу ў штаце.

Можа скараціць Зайца? Досыць малады асіннік псаваць!

Але тут Лісіца заступілася. Канечне, ёсць у Зайца недахопы! Усё чамусьці коса глядзіць... Але як Зайца скараціць, калі ў Зайчыхі — тут Лісіца каўтнула сліну — цэлы тузін зайчанят!

Пакінулі Зайца ў штаце.

Можа скараціць Вавёрку? Толькі пераскоквае з елкі на елку, шышкі нішчыць.

Але за Вавёрку заступіўся Заяц.

Пакінулі Вавёрку ў штаце.

Можа скараціць Крата? Усё роўна Крата ў лесе не бачна, рыецца недзе і рыецца. Пад каго падкопваецца?

У Крата заступнікаў не аказалася. Ды вось бяда: драбнаваты Крот. На трынаццаць працэнтаў не цягне. Хіба што яшчэ ўсялякіх там землярыек для роўнага ліку? Рэзаць дык рэзаць!

Але тут заблязў дзікі Казёл. У мядзвежай наменклатуры Казёл не стаяў. Скуб у лесе траву-мураву і прыблукаў да барлогі. Краем вуха пачуў спрэчкі.

— Бее-е... Ме-е... — затрос барадой. — Дурнап'яну аб'еліся? З бухты-барахты... Спачатку абгрызці, абсмактаць!..

А сапраўды: не абы што бляе Казёл! Такое надзённае пытанне. Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж...

Тады вырашылі стварыць сектар па скарачэнню штату. Начальнікам сектара зацвердзілі таго самага Казла...

Потым схамянуліся: а што рабіць скарочаным бедалагам? Адным заходам стварылі і сектар звераўладкавання. Начальнікам сектара выцягнулі з глухой ляснай затокі Бабра. На будоўлі набіў лапы, зубасты. Любому лыка знойдзе!

Пытанне аб скарачэнні штатаў абмяркоўваецца...

ІВАН АНОШКІН





*Здзецца, мама робіць гэта нейк інакш.*

*Гумар з барадою*

З ПІСЬМА ДА ЦЁШЧЫ

...У нас, у Вільні, дарагая мама, ездзіць столькі аўтамабіляў і блізка штодзень яны душаць людзей, якія трапляюцца ім насустрач або наўпоперак. Цяпер вы, дарагая мамачка, прыязджайце крыху пагасціць да нас. Ах, як бы мы былі рады...

**Талаваломка**

13 кружкоў расстаўце так, каб утварылася сіметрычная фігура, складаючаяся з 14 радоў, і каб у кожным радзе было па 3 кружкі.

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

26315789473684210(5)

(5)26315789473684210

*Беларуская народная песня*

## ● ЦІ СВЕТ, ЦІ СВІТАЕ ●

Ці свет, ці світае,
Ці на зоры займае,
Ці мой міленькі,
Голуб сівенькі,
Коніка сядлае?

Сядлай, мілы, каня,
Ды каня варанога,
Прыязджай, мілы,
Не кідай, мілы,
Мяне, маладую.

Ці ж я не такая,
Як і гэна другая?
Я й харошая,
Я й прыгожая,
Мая доля ліхая!

Ты пойдзеш гарою,
А я даліною,
Людзі гавораць,
Я й сама знаю,
Што не жыць мне з табою.

Ой, у полі калінка
Ды ад ветру завяла.
Несуверная
Ды дружыныньна,
Што мне свет завязала.

Ой, у полі дубочак,
Навярху жалудочак,
Сама не знаю
І не ведаю,
Дзе мой мілы дружочак.

Ой, у полі азерца,
Там плавае вядзерца.
Ой, прыйдзі, мілы,
Ды парадзімся,
Маё мілае сэрца!

Пайду да каморы —
Ані хлеба, ні солі.
Не ўцякаці мне,
Не ўбяжаці мне
Ад няшчаслівай долі.

Пайду да матулі,
На парог паступлюся.
Людзі гавораць,
Я й сама знаю,
Што назад не вярнуся.

Каб я гэта знала,
Замужняе ліха,
Я сядзела бы,
Бульбу ела бы
У матуленькі ціха.




ВЫКРУЦІЎСЯ...

— Кажуць, ты жывеш у жонкі пад пятой?
— Хлусня, яна ў мяне заўсёды ў модных чаравічках ходзіць.



— *Ці няма закурыць?*



ЦІ ПІЎ

— Ты зноў гарэлку піў? — пытае жонка мужа.
— У роце не трымаў.
— Затрымаецца яна ў цябе.

СУПАКОІЎ

Маці папракала сына-лодара:
— Вось ты, сынок, не працуеш, а за сталом за дваіх ясі.
— Супакойся, мама, — адказаў сын, — калі б я працаваў, то за чацвярых еў бы.

КАЛІ ЗГЛУЗДУ З'ЕХАЎ

Задумаў хлопец жаніцца і сказаў пра гэта бацьку.
— Я ў твае гады яшчэ зглузду не з'ехаў, — з дакорам адказаў бацька.
— А на якім жа годзе ты зрабіў гэта, тата? — спытаў сын.

ЧАМУ

— Чаму вы вечарамі не закрываеце штораю акно? — спыталі ў Льва Талстога.
— А каб паліцэйскім было відна, хто ў мяне бывае, бо яны за мною дужа ўжо сочаць. А ў шчыліну падглядаць цяжка. Трэба ж ім палегчыць працу.



*Толькі б дагнаць лідэра...*

ДЗЕ МУЖ

— А ваш муж таксама адпачывае тут з вамі?
— Не, ён адпачывае ў Сопаце.
— Чаму ж не разам?
— У нас розныя камандзіроўкі.

НАРЫХТАВАЎ

— Нарыхтуй каня, — наказвае бацька сыну.
Хлопец пайшоў і доўга не вяртаўся. Калі ён з'явіўся, бацька пытае:
— Даў каню сена?
— Даў.
— Напаіў?
— Так!
— Тады ідзі і запрагай каня.
— А дзе ж ён?

— *А ты нават выцерці посуд толкам не можаш!*

ЮНЫ БАРАДАЧ

У чалавека нелады,
Спяшаецца да старасці...
Тырчаць ашмоткі барады,
Але не бачна сталасці.
Саліднасць хоча ён прыдбаць,
У свет вялікі меціцца,
Зялёны розум з-пад ілба
З вачэй мізэрна свеціцца.
Відаць і без празрыстых лінз,
Што не віна тут матчына.
Ад продка-малпы атавізм
Ён прагна цягне ў спадчыну.

*Станіслаў Шушкевіч*

# Курёзы

АДВЕРГНУТАЯ ПРАПАНОВА

65-гадовы пенсіянер Эрнст Гатэрыдж з г. Петэрбора (Англія) напісаў пісьмо прэм'ер-міністру Гарольду Вільсану, прапануючы яму бясплатную кансультацыю ў сувязі з тым, што папулярнасць Вільсана падае. Справа ў тым, што Эрнст варожыць на картах. «Пан Вільсан вельмі мае патрэбу ў якой-небудзь здаровай парадзе, — заявіў Гатэрыдж, — і калі яго міністры не могуць даць яе, то я змагу з дапамогай калоды карт. Хто ведае, магчыма, карты параць яму павысіць пенсію па старасці».

На жаль, наколькі вядома, Вільсан не выкарыстаў паслуг старога пенсіянера-варажбіта.

АБ'ЯВА

У адной з канцэртных залаў Францыі была вывешана наступная аб'ява: «Узровень гучнасці меца-фортэ, узятага на трубе, адпавядае 65 дэцыбелам. Непрыглушаны кашаль мае эквівалентную гучнасць. Даводзім да ведама нашых паважаных слухачоў, што, прыкрываючы рот у час кашлю хусцінкай, яны могуць атрымаць пяніссіма».

ВЫПАДАК

На лёгкаатлетычных спаборніцтвах у Перу быў адзін вельмі цікавы выпадак. Некалькі суддзяў, сярод якіх і Ф. Дзіяс, заіка з маленства, стоўпіліся ў сектары для кідання дыска каля шчыта са спрэчным вынікам. У гэты момант адзін са спартсменаў для размінкі вырашыў кінуць дыск. І той плазам упаў на спіну Дзіясу. Дзіяс страціў прытомнасць. Калі ён апрытомнеў, выявілася, што яго заіканне зусім знікла. Спартсмен быў збіты з панталыку, калі суддзя пачаў горача яму дзякаваць.




*Плаваюць рознымі стылямі, тонуць — адным.*